# Алесь Каско

# Час прысутнасці

вершы, паэма

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

* * *

Не чуем болей фарысейскіх «песняў»,
што толькі хлебам людзі пражывуць.
Дзе дух заплеснеў,
там і хлеб заплеснеў,
калі без волі жнец — не быць жніву.

Знікаюць у жытах арыенціры:
занесла пылам босыя сляды,
звяў васілёк...
Зноў з кайстраю і лірай
у роздуме вандроўнік малады.

Няўжо спачатку ўсё: у світцы зрэбнай
ісці, каб словам сведчыць пра бяду,
і рукі прасціраць — вазьміце неба,
і не чакаць, што хлеба пададуць?..

## Начное святло

Спусціла ноч нябёсы ўніз —
вунь зоркамі асфальт абсыпаны.
Уздыме вецер зорку-ліст,
нясе сюды, на ззянне шыбіны.

Сухі і цвёрды, ліст гарыць,
іскрыцца ў німбе электрычнасці.
Такая светлыня ў двары —
здаюцца дрэвы фасфарычнымі.

Святлом заняўся край сцяны,
хіснуўся злёгку, ім падкошаны,
як быццам сполахам начным
тут праляцелі сны харошыя.

Здалёк іх зыбкі след плыве,
падняты позняй легкавушкаю,
зіхотка блісне — ажыве
ўвесь дом, хаця агні патушаны.

Як можна гэткай ноччу спаць?
Прачнуцца — а лісцё апалае
не дасць ні месці, ні зграбаць:
сябе само святлом паспальвае.

* * *

Я пакуты шукаў, як збавення,
калі слоў не хапала душы,
бы згалеламу полю — насення,
над якім ледзянелі дажджы.

Мне ў чаканні маўклівым, няплённым
апастыльвала так чарната,
што ўяўляў тое поле зялёным:
дзіды-ўсходы без сонца-шчыта.

Крочыў я скрозь азызлую прастрань
і пад гнётам дажджыстай бруі
распінаў сваю ніцую постаць
у сцяблінaчак на вастрыі.

Гэта жар быў. Трызненне ці мроя.
Гук і колер не мелі мяжы:
я праходзіў скрозь поле пустое,
разрываючы немасць душы.

Нібы вязень, імкнуўся да волі —
волі слова, яго хараства.
І, зазнаўшы пакутаў, засвоіў
я прыроду свайго рамяства.

## Першы

Наважыўся — ступіў на лёд,
і хлынуў за табой народ,
і на лятучых пасмах снегу
не затрымалася ні следу.

Няпэўным крокам аступіцца
баішся ты, ды не баіцца
народ — ён рушыў, і цяпер
яму зусім не да цябе.

І адзінокі ты на лёдзе:
ідзеш па гэтым хісткім лёсе,
здалёку — роўным і бліскучым,
а зблізку — тонкім і балючым.

Яшчэ паперадзе ва ўсіх,
яшчэ ў цябе застаўся міг,
каб адхіліць ад іх бяду —
спаволіць страшную хаду.

У роспачы ўздымаеш рукі
і рызыкуеш — бачыць Бог —
самім народам
                    збітым з ног
ляжаць на ўледзянелым бруку!..

* * *

Былі і ёсць яны, месіі,
што свет ратуюць ад бяды
ў часы бязвер'я і бяссілля,
у дні аблуды і нуды.

Яны і ў краі нашым родным
няспынны, незваротны шлях
не чалавецтву, дык народу
крывёю крэсляць на крыжах.

Адна ў іх мэта — дух раскуты,
любоў адзіная ў грудзях,
адзін і той жа знак пакуты,
і юда той жа, і суддзя.

З-за дроту ці з псіхіятрыі,
з-пад куляў альбо з-пад цвікоў
дарма чакаюць іх Марыі
на сумных ростанях вякоў.

Зямныя — дык не ўваскрасаюць;
і не праходзіць пачуццё:
бадай, не верылі і самі
ў сваё нясмертнае жыццё.

І сёння скрозь абсяг трывожны
стараемся іх распазнаць —
адратаваць ужо не зможам,
але з крыжоў павінны зняць.

* * *

Зайшоў у залу — збіўся з ліку:
і першы, і апошні рад
званоў маўклівых, без'языкіх
запылены ўдавалі склад.

Згары цурчэла пацяруха
на хмурны, самы большы звон.
Я дакрануўся лёгкім рухам —
і прахам раскаціўся ён.

Тады ад гулу стала страшна:
званы і дробныя званкі
ўскіпелі на мяне, дастаўшы
з-пад лавак джалы-языкі.

# Катаклізмы

Адны героямі былі,
ішлі на крыж, на эшафот
за годнасць ды за свой народ...
Іначай, пэўна, не маглі.

Другія ка́тамі былі,
іх спадчына — бізун, турма,
і апраўдання ім няма...
Ці ўсё ж іначай не маглі?

Сумніўцы — трэція былі,
іх душы спапяляў агонь,
іх боль спыняла куля ў скронь...
Іначай, мабыць, не маглі.

А кім чацвёртыя былі,
што ўмелі толькі сеяць, жаць,
што спрэс мільёнамі ляжаць?..
Няўжо іначай не маглі?!

* * *

Хлопцы, хлопцы... Белыя вароны!
Горад азірнецца — уздыхне
ці пагардай, быццам з-пад кароны,
з-пад брыля праніжа, не зміргне.

Не адвернуцца, ды дзе ў закутку,
ля глухое шэрае сцяны,
сціснуць скроні ў роспачы і ў смутку...
Белізна — з адценнем сівізны.

З-за сцяны нярэдка далятаюць
і да іх былыя галасы:
«Дзе ж улады? Ці варон страляюць?»
Не страляюць... Новыя часы!

Не баяцца брудных нагавораў,
мужныя, ачысцяцца ў вяках.
Не ўваскрэсне, бог дасць, хіжы воран,
не спародзіць болей «варанка».

Толькі мала іх, яшчэ так мала...
Ім у тлумных вулках гарадскіх,
у перанаселеных кварталах
не стае падобных да саміх.

Бліснe вера ў сэрцах іх збалелых —
весялеюць позіркі ва ўсіх,
і тады на вулках белым-бела,
светла скрозь на Белай іх Русі.

Ці то снег айчынны край палоніць,
ці то май расквечвае сады?..
Хлопцы тыя — белыя вароны —
ані з кім не розняцца тады.

## Згадка пра філфак

Спяшаюся звечара выспацца, каб не заснуць
на лекцыі пра тэорыю сацрэалізму,
але зачытваюся Альбэрам Камю, пра якога
паведаць не знаю каму — хіба што таполям, —
і зноўку спазняюся... У дэканаце
ўсур'ёз абяцаю зачытвацца Марксам,
і Горкім Максімам, і Бедным Дзям'янам.
Я нават прашу ў групкамсорга канспекты,
а Тая — з вялікае літары Тая — з заняткаў
прыносіць чамусьці каўбасны пярсцёнак,
які заручае нас тайнай вячэрай
і Песняю Песняў... Назаўтра чытаю
свае вершаняты паэту Алесю Разанаву,
сталіцаю гнанаму за беларускасць,
і ён разумее мяне, і Яе, і Альбэра Камю,
і чуе таполі, што туляцца да інтэрната.

* * *

Як не жылі: мінуўшчыны няма,
яна праклёнам стала і зарокам.
Адно, бы гвалт над памяццю і зрокам,
паўстане першаснежная зіма —
юнацтва свет, дзе аніякіх плям:
ні ў думках,
ні ў пачуццях, ні ў сваволях.
Але і згадкі выракам няволяць,
размежаваўшы долю напалам.
Рубец душы не гоіцца цяпер,
калі ў нябыт сышоў жыцця пачатак,
і ў твар
глядзіць з пагардаю нашчадак —
ён не дае спагады напавер.
Не выпадае крыўдаваць, аднак:
гады, якія толькі што мінулі,
яго душу таксама закранулі,
на першаснег паклалі лёсу знак.
З мінуўшчыны, бы крывацёк, ці-раз
праб'ецца чырвань... І не перастанем,
на новы шлях ступіўшы, пакаяннем
на кожным кроку знак яе сціраць.
Увойдзем у чужую маладосць
мы засцярогай, горкім напамінам,
каб чыйсьці першаснег бялеў бязвінна,
каб верыць, што ў нас будучыня ёсць.

# Герб

Молат аддалі кавалю,
новаму Паўлюку Багрыму,
серп — руплівай жняі,
што сее і сёння ля хаты
жыта сваёй маладосці.
Абмалацілі каласы
і са жменькі чыстага збожжа
чорнага хлеба спяклі
для чарнобыльскіх дзетак.
Адзінокую зорку ў зеніце
падарылі закаханым,
а сонца над шарам зямным
і над краем сваім
пакінулі — свеціць.

* * *

Дарэмна пытацца ў народа,
адкуль ён ідзе і куды.
«Дык я найчасцей — з агарода
да студні,
стуль — зноў да грады...»

І жыта, і кветкі ён сее.
Асот вырастае і сам.
І крыўдна, калі іржавее
ўваткнутая ў шула каса.

«А што разумець пад асотам? —
прыжмурыцца. —
Проста скажы...»
Схітруе, ды ўсё-такі потым
ачысціць касу ад іржы.

Ён без алегорыяў цяміць,
што можна, што грэшна цярпець...
У ім яшчэ цепліцца памяць,
што слыў касінерам касец.

Не толькі ад долі сярмяжнай —
ад волі
яго радавод.
Пакорлівы ён і адважны,
лайдак і руплівец — народ.

То мяккі і гнуткі, як лозы,
то гнеўны, як жар бліскавіц.
І ці не за тое, што — розны,
нам з болем і верай любіць?

## Вольны вязень

Глыбока згадкі засмыляць.
Тады, нікому не падсудны,
выходжу на шырокі пляц,
што стаў і голасны, і людны.

Змяніўся час! Сцішаюць крок,
пакінуўшы свае закуткі,
і цягнуць рукі мне здалёк
здрадліўцы-сведкі і падсудкі.

Яны ірвуць маю тугу,
ідуць па святасці, па веры,
а я хацеў бы — не магу
руку праціснуць скрозь паветра.

Няма злабы, збалеўся я,
ды паміж намі — не парушыць! —
суцэльным шэрагам стаяць
навек зняволеныя душы.

Сяброў самотных пазнаю
і, верны ім, не збіты з тропу,
руку іх ценям падаю,
выразна бачным між натоўпу.

* * *

З гадоў былых,
з цвілых затокаў часу
ледзь-ледзь жывыя
выплываем мы,
як рыбіны.
Пад намі жвір блішчасты,
святло над намі.
З хваляў пакручастых
спадае твань
задухі і драмы́.

Дужэе плынь.
Паводка ля сядзібы
нам аб сяўбе вяструе
і касьбе.
Звычайней — гамана,
знікаюць німбы.
Збываем стра́хі
моранае рыбы,
і немай,
і загнанай у сябе.

Мы подыху вясны
ўсё болей рады,
а ўпотай просім:
доля, барані —
дай нам адрозніць
шчырасць ад прынады,
мінуць віры
юрлівасці і здрады
на плёсах свежасці
і чысціні!

## Спадчыннік

Стрымалі рост маладнякі,
і дажываюць век дубровы.
Няма паперы. Медзякі
цяпер званчэйшыя, чым словы.

Хто за пятак, а хто й за так
душу закладвае ў друкарні.
Шчэ не паэт, ды ўжо бядак —
ідзе з прасцёртымі рукамі.

Не просіць: «Дайце!» Просіць: «На,
вазьмі, народ, усё, што маю».
Вачэй узнёслых чысціня
не ўтойвае слязы адчаю.

Шчэ не паэт, а ўжо ізгой,
і спасцігаць яму не проста,
завошта шчодрага яго
змушаюць да жабрацкіх просьбаў?

Нішто сабе жабрак, калі,
да слова прагны, сціплы ў быце,
ён нават сэрца агаліў
і аддае з мальбой: «Бярыце».

Смуткуе. Ходзіць на паклон.
Не пагарджае прыніжацца.
Зважай, народ! Мо збавіць ён
цябе ад існага жабрацтва.

* * *

З хацінаў без ганка і сенцаў,
дзе дух жыватворных гадоў,
глядзяць абразамі ў акенцах
абліччы бабулек-удоў.

Ні скаргі ў вачах, ні папроку,
ні страху ў чаканні сівець.
Ім звыкла: старых, адзінокіх
надоўга цураецца й смерць...

І толькі за нас, самавітых,
далёкіх ад стратнай пары,
нашэптваюць вусны малітвы,
хоць сілы няма гаварыць.

Не чуем, ámаль не прыходзім,
не бачым... Часцей, чым да іх,
ідзём у святочным народзе
да намаляваных святых.

І раптам аконныя рамы
дыхнуць галізной крыжавін...
Хаціны — найсветлыя храмы,
пакуль з абразамі жывых.

## Непакойчыцы

Заспела навальніца
і ці скончыцца —
з шалёным ветрам,
паданнем лісця
і стогнам над сядзібай?..
Непакойчыцы,
куток быллём парослага жыцця.
Дзіравіцца дзірван,
і, векавечныя,
ірвуцца тут і там вузлы травы.
Надгробак агаліўся,
жоўтай свечкаю
ён апаўзае ў злепак жвіравы.
Дождж хвошча па рацэ,
і хвалі дугамі
падсочваюць,
падточваюць пясок.
Хвіліна — і карэнне занядужае,
і зліжа дрэвы
брудны вадасцёк.
Магчыма, дождж апошні...
У зацятасці
ён нават косці вымые з магіл.
І я кідаю схову.
Момант святасці:
яшчэ відзён тут след людской нагі.
І ёсць найменне —
грэшнае і вешчае,
мацнейшае ад грому і дажджу.
Яно — як засцярога:
найстрашнейшае,
калі хаваем з целам і душу.

* * *

Я вымыўся сёння ў настоеных росах
і выцерся хмаркай — льняным ручніком:
на ім
    вецер сонца з-за лесу выносіў,
ажно верх яліны заняўся дымком.

Мне спалася моцна на посцілках траўных
пад шатамі лёгкіх, як пух, туманоў.
Між дрэў, і мятлушак, і птахаў
                                        сапраўдных
і самых спагадных знайшоў я сяброў.

У сне зорна-сінім я лётаў высока
і стойваў дыханне
                    над роднай зямлёй,
а поўня, прыроды нядрэмнае вока,
мяне сцерагла і сачыла за мной.

І свет адкрываўся мне ісцінай простай:
ні рэк, ні аблокаў не спыніцца ход...
...Пакуль беласнежнай,
                        бліскучай палоскай
лятункавы сон не спыніў самалёт.

Пайшоў я тады ў дымны горад лугамі
і вестку з дзяцінства разнёс па дамах:
яны па-ранейшаму
                    роўныя з намі —
трава, і мятлушка, і дрэва, і птах.

## Радаўніца

Весні поўдзень. Прыпякае.
Сонца, вільгаць — не стрываць.
Мкне — пяшчотная такая —
з нетраў збуджаных трава.

Быццам ісціну старую
ўваскрашае: свет — жывы!
Цэлай вёскаю шчыруем:
кветкі, кветкі між травы.

Зіхацяць кроплі́ны соку,
серабрацаь вярбовы куст,
і ляжыць навідавоку
бацькам скінуты картуз.

Спёка схлыне — і на золку
тройчы куст той абыду,
ды, нібыта ў сене голку,
картуза я не знайду.

* * *

Мы ўсе нявернікі. Ману
лапочам нават у маленні.
Мы забіваем зверыну
і дрэвы ставім на калені.

З багна — то луг, то зноў багно,
і ў тым глумленні над прыродай
відзён прагрэс, ды не відно
ані прасветлінкі на одум.

Каму скажыце, западзе
здагадка, што мы самі ўрэшце
сабе спрычынім судны дзень
задоўга да яго прышэсця?

Спасцігне незайздросны лёс:
ёсць бог зямны, ён самы дужы —
мальбы не пусціць да нябёс,
нябытам пакарае душы.

# Неба

Маліліся небу,
каб выратавала ад сухменю,
і недзе апоўдні яно звечарэла,
і хмарку залётную
шызаю хмарай зрабіла,
і хлынула спорным іскрыстым дажджом.
Залапаталі, ажно зазвінелі
лістота прысадаў
і лісце капусты,
забулькатала вада пад бульбоўнікам,
залапушыўся гарбузнік,
заварушыліся
дагэтуль самлелыя агуркі.
Так хораша стала, так свежа, так пахка!
І кожнай градою
зазелянелася,
і кожнай разорай
засерабрылася,
і зачарнелася кожным узмежкам
зямля.
Нарэшце
станчэлыя ніткі дажджу
пaперарэзвалі вострыя ластаўкі,
і дзеці пабеглі па яблыкі-паданкі ў сад,
і выйшлі спаважна дарослыя —
пагаманіць каля вясніц
пра неба,
як пра цуд-палівачку для агародаў.

* * *

Грудок і гэты западзе
пад торф ды хлуд галінак вялых,
і я апошні на судзе
натоўпу ўзбуджаных фіялак.

Што ім сказаць, калі вясне
ўсё роўна,
чым сцвярджаць свой поступ,
калі задоўга да мяне
прайшоў тут указальны посах?

Цвісці асоту тут, цвісці
бульбоўніку пад рыжым пылам,
а вінаватых — не знайсці
за расцяробам ды распілам.

За даўнасцю. За талакой,
якая скончыла бязлюддзем
і ўрэшце сіні неспакой
фіялак стоўпіла на грудзе.

Астатні раз, напрыканцы
ўзышла-ўсхадзілася сінеча,
бы дым ад свечак на капцы
курганнай долі чалавечай.

Мая прысутнасць тут на міг.
Пакуль развязка выспявае,
сыду і я... Ніхто з жывых
прызнаць віну не паспявае.

За лесам — лес, за грудам — груд,
а ўсё замала нам, каб верыць,
што некалі прырода суд
з усёй суровасцю завершыць.

# Валуны

Я ступіў на край таго абрыву,
што ў палёце запыняе кроў,
з дна якога ўспененую грыву
ўскідвае раз'юшанасць віроў.

Гэты крок быў блізкі да вар'яцтва,
і спазнаў я ўсю яго цану:
не хапіўся аніхто азвацца,
аніхто рукі не працягнуў.

Адступіў. Было, урэшце, глупствам
смеласцю здзіўляць... Ды ўкруг мяне
пляжны люд, пратнуты самалюбствам,
з гневу і абразы ўкамянеў.

І датуль ён будзе ненавідзець,
валунамі на пяску ляжаць,
покуль не абудзіць той, хто прыйдзе
стаць на край абрыву не на жарт.

## Гэты

Гэты не грэбуе сябравай жонкай,
абы наталіцца;
гэты не ўпусціць свайго,
хоць бязвінным слязам і праліцца;
гэты і ў бацькі ўкрадзе,
каб манетаю свежай разжыцца;
гэты з выгоды
гатовы ад роднай зямлі адступіцца;
гэты, о Божа, у храм Твой
нязменна прыходзіць маліцца, —
гэты ніколі
ва ўсёдараванні Тваім не ўсумніцца!

* * *

Здавалася, прорва такая — не выйду,
не выкарабкаюся з тхлані, імглы
да ветлага сонца, на мяккую выдму,
пад цёплыя сосны з настоем смалы.

І хай тут бязлюдна, і вернецца страта
не хутка — яшчэ ні цябе, ні сяброў,
а ўжо я цалую маўкліва і свята
мой бераг, дзе рэхам блукае любоў.

Нанова здзіўляюся лёгкім аблокам,
і сыпкай ігліцы, і зыбкім пяскам
ды цешуся думкай, што вы недалёка,
каго, разабрацца, пакінуў я сам.

Калі разабрацца,
дык мог бы пазбегнуць
багністага шляху, дзе тхлом аддае.
Няхай не была непазбежнаю бездань —
п штосьці світальнае вынес з яе.

## Крылаты

Не разгадаць, не зразумець,
не растлумачыць
звыклай з'явы:
пакуль бяскрылы мкне ўзляцець,
крылаты
выпаўзае з ямы.
Бязвольна цягнецца крыло,
намоклае ў пітве агорклым.
Было!..
Адзіны раз было —
ён змог узняцца над задворкам.
І вось — аслепленасць, надлом,
шлях у нявер'е
з лёгкай веры...
Намацвае другім крылом
знаёмыя чужыя дзверы.
А ў хмельным хваравітым сне
апраўдвацца знаходзіць сілы:
ён заўтра
крылы развіне
і паляціць над тым бяскрылым,
што ноччу доўгаю дарма
рукамі ўзмахваў,
стрыг плячыма...
... Але прачнецца — крыл няма:
адно ў піўной — адно ў жанчыны.

* * *

Дзён ціхаплынных не відно,
не заўважаем іх.
На хвалі ўздыбленай адно
ёсць існавання міг.

Адно на глыбкім чорным дне,
калі адчай — наскрозь,
выразна думка прамільгне,
што мы на свеце ёсць.

Аднак зазвычай нашы дні,
бы хвалі плыткіх рэк,
без паўнаты і глыбіні
зніто ўваюцца ў век.

Ля развітальных берагоў
шкадуем дзён былых
і ў вечнасць верым з-за таго,
што абмінулі міг.

# З дзіцячых таямніц

Святочна рыфмаваў я «мама — рама»
і параўноўваў з матыльком сцяжок,
што плыў над вулкай... Гаманіла крама
і запыняла ўпэўнены мой крок.

Зусім няўцям было мне, што ў салюце
знаходзілі вясёлыя дзядзькі
не водбліскі сусветных рэвалюцый,
а вінных пырскаў лёткія снапкі.

Заманьвалі. Трапляла ў рукі шклянка
і мне — я чуў, затоены, як мыш:
змяняўся гімн вясковы «Ехаў Янка...»
на ўсенародны гімн «Шумел камыш...».

Не разумеў, чаму мне гэтак скрушна,
калі й настаўнік забягаў сюды.
Збянтэжаны, ён з важнасцю двурушнай
з вядра зачэрпваў голае вады.

А я сцяжок засоўваў у падстрэшша,
ішоў дамоў і рады быў, хлапчо:
пусцела вулка; існа і бязгрэшна
мне матылёк спускаўся на плячо.

# Homo televisionis

Ён так прызвычаіўся да тэлеэкрана,
што стаў адзінокім — баяўся
знячэўку параніцца аб паветра.
Ехаў у аўтамабілі — і зноў жа
нібыта ўключаў тэлевізар:
за акном — нерэальныя людзі,
і дрэвы, і неба... Будынкі
мелі сотні вачніцаў-экранаў
абапал, насупраць, здалёку...
І ў службовым яго кабінеце
мільгацелі такія ж празрыстыя плямы —
на паліраваных сталах і шафах,
на філёнках дзвярэй,
на шкельцах напыжаных акуляраў.
А ў нейкім вулічным рэпартажы
пабачыў сябе ён самога
і доўга раздумваў:
дзе быў ён сапраўдны,
а дзе — толькі адлюстраванне?
Ні ў кога не ўмеў запытацца,
і ніхто не прыйшоў на падмогу...
Адно як састарыўся, верыць пачаў,
што там, куды хутка ён вернецца,
паўстануць зусім рэальныя людзі,
і дрэвы, і неба, і сам ён —
без гэтае шэра-блакітнае памяці,
без тэлевізара.

## Балада мітынгу

*1*

З той вуліцы, дзе сэрца засталося
і дзе паветра запяклося ў глотцы,
дзе шчэрыліся ў грозьбе ваўкалакі
і ледзьве не абрынулася неба,
ён песні не прынёс — адно трызненне.
Шчаслівае вярнулася трызненне
па чысціні вясновае бярозы,
па слове мяккім, як дыханне,
па дотыку жаночае рукі —
па ўсім, што нараджае песню.

*2*

Пакутлівая ноч, нібы ў літанні,
забрала ў яго рэшту сілы,
а ўранку толькі цень ад успамінаў
ішоў адзін па вуліцы, якая
была ўчарашнім днём пякельным...
Няўхільны вынік: нават цень,
празрысты цень ягоны
ўхапілі помслівыя ваўкалакі —
і ўскрыкнула, і застагнала песня
на вуліцы, дзе сэрца засталося.

# Мутант

Клубка павуціннага не разматаць,
каб звесці з канцамі канцы.
Мо кволлю такою жыццё нітаваць
маглі б жабракі ці скупцы.

А мне, хто меў вольны пачатак-выток,
паданнямі ўслаўлены кут,
найлепшае выйсце — рассекчы клубок,
абрынуцца ў бездань, на скрут.

Што гэта вышэй,
чым на ўскрайку гібець,
падказвае памяць, але
як соладка спаць, не належаць сабе
і гойдацца ў мяккім сіле.

Не страшыць мяне павуцінны наліп,
што чэпіцца гідка да рук,
і тое, што блізка ўжо,
блізка, на ўсхліп, —
калматы, як сонца, павук.

* * *

Спахмурнее, скаланецца,
загрыміць сухое лета —
ясень да зямлі сагнецца
пад залеваю і ветрам.

Але ўзвысіцца таполя
ганарліва і сіроча
і не скорыцца сваволям
вераб'інай гулкай ночы.

Наляціць пярун шалёна,
бліскавіцу гнеўна кіне —
задрыжыць, хіснецца крона
і ў віхуры мутнай згіне...

Сціхне бура. Зноў раз'ясніць
росны ранак наваколле.
І высокім стане ясень
побач з мёртваю таполяй.

# На Дзяды

Апоўначы стрэлкі гадзінніка зварухнуліся ўлева.
Апоўначы на мой горад апусцілася залева.
У космах дажджу пад аціхлымі вокнамі
з'явіліся постаці — бязважкія і адзінокія.
І вузкія вулачкі неверагоднае дзеялі...
Старыя домікі выпросталіся і маладзелі.
Ля сквераў — нябачныя дзённым прахожым —
з травы падымаліся раскіданыя агароджы.
І лаўкі ля іх вытыркаліся рэбрамі-спінкамі.
Камлістыя вербы станавіліся кволымі
вярбінкамі.
Па-над пляцамі — у змроку амаль
непрыкметна —
змяняліся абрысы і вобразы манументаў.
Бялелі ў залеве на вулічных пераходах
уборы старамодныя — забытага веку і году...
А ўранку дождж сціхнуў, і ўзбуджаны горад
абмытымі вокнамі пазіраў пыхліва і горда.
Над мокрымі дахамі, над вадасцёкамі
сплывалі постаці — бязважкія і адзінокія.
І толькі ў кватэрах усміхаліся ніякавата
аблiччы юныя на парэпаных фотакартках.

## Перад свечкаю

Што век — са свечку, не тужыце:
узрост ці выстудзіць душу?
Вы хоць агарка не тушыце,
яго і сам не патушу.

Яго нясіце ў храм сасновы,
у вечаровы, залаты,
каб ён запалымнеў нанова
ад нехалоднай яснаты.

Яго трымайце, засланіўшы
ад скрадлівага скразняка,
над споведдзю бяссоннай кніжкі,
над цёплым подыхам радка.

А ўночы, калі мулка спіцца,
хай скрозь адлегласць паўстае
ў ім водсвет хаты, як зарніца
нязгаснай памяці яе.

Краса, паэзія, айчына
слязінкаю раз'ясняць зрок,
і вам адкрыецца магчымасць
убачыць прышласць хоць на крок.

Дык перад свечкай не грашыце
на ўзрост, на прыцемак... Прашу:
вы хоць агарка не тушыце,
я сам — яго не патушу.

* * *

Цяпер працягнецца маўчанне:
здранцвела слова ў халады,
тады, як стылымі начамі
яго баяўся ты.

Яно прасілася балесна
ў павеў адліжнага цяпла,
але зямля чаканнем веснім
душы не апякла.

І пакараны ты сурова:
цяпер, як схлынула зіма,
ты выбухнуць хацеў бы словам,
якога больш няма...

# Вехі

*1*

Адышлі ваяры,
запавет перадаўшы на сконе.
Занялі песняры
сёдлы белых натомленых коней.

І пакуль на факстрот
выраджэнцаў даўжэла калейка,
аклікалі народ
і сурма, і дуда, і жалейка.

За абшарам абшар
напаўняўся ўстрывожаным слыхам.
Узнімаўся штандар,
бы завеяй маланку ўскалыхваў.

Ажывалі муры,
адчыняліся цяжкія брамы.
Песняры — ваяры,
як няма каму стаць ваярамі.

*2*

Ці з далёкіх дарог
адгукнулася іх прызначэнне?..
Вельмі хісткі парог
Адраджэнне дзяліў з Адрачэннем.

Той парог — ці турма,
ці спакуса тугое кішэні,
каб замоўкла сурма,
каб дуда і жалейка сцішэлі.

Усталёўваўся час,
поўны бруду, крыві і адчаю,
калі лепей маўчаць,
чым калі ўладара ўзвелічаюць.

Чым калі песняры
выраджэнцам іграюць факстроты...

*3*

...Мы — якое пары,
да якое належым кагорты?

* * *

Мудрыя маладыя творцы
грэбліва пазбягаюць
уздыбленых вуліц,
здратаваных газетных загонаў,
расплаўленых тэлеэкранаў —
таго, што нявартае
богаабраннікаў.
Іх кватэрны зацішак
дыхае наканаванасцю —
паказацца народу
ў геніяльных «Аблавах»,
і «Знаках бяды», і «Сотнікавых»...
А пакуль што
мудрыя маладыя творцы
паблажліва ставяцца
да пілігрыма ўздыбленых вуліц,
ратая газетных загонаў,
сізіфа нясцерпных пытанняў
Васіля Уладзіміравіча Быкава.
І ён, трэба думаць,
вельмі ж усцешаны
найсправядліўшым падзелам
беларускае працы.

* * *

Ці гэта сцягі адшумелі,
ці сэрцаў кранулася стома?
Хто ў крыўдзе,
хто хворы на веліч —
сябры засядзеліся дома.

Спаважнелі вершы, манеры,
а ўбачу іх позірк балючы
з былога,
і цяжка даць веры,
што гэты зыход немінучы.

Няўжо больш ніколі-ніколі
не трызняць дарогаю тою,
дзе нас абвяваў белы коннік
харугвай сваёй залатою?

Здаўжэлі бяссонныя ночы.
Са змроку, з бязмоўя
чакаю:
вось-вось капыты загрукочуць,
вось-вось галасы загукаюць...

Ды ціха. Там спеляцца вершы
пра колішні час рызыкоўны,
там спешыўся ўзброены вершнік
і з плошчаў сышоў у іконы.

* * *

*«Вы любіце Пушкіна?..»*

*З размовы*

Калі я перад Пушкіным, Гамерам
схілюся сэрцам — сэрца зашчыміць
здзіўленнем, паланёнасцю, даверам,
аднак яшчэ не схільнае любіць.

Калі ўва мне запаліць іхні геній
паходню з самых незгасальных слоў,
узрушуся і стану на калені,
ды той агонь — яшчэ ўсё не любоў.

Са светам зліцца як бы я ні прагнуў,
адзінакроўным сэрца наталю.
Гамер і Пушкін... Аддаю павагу.
Купалу, Багдановіча — люблю.

# Парк

Зайдзі — і згубішся ў густым
зацішку хвойнай зеляніны,
дзе сцелецца на вершаліны
аблокаў пракаветных дым.

Здаецца дзіўным кожны гук:
ігліцы шэпт, шумок гаворкі.
Непалахлівыя вавёркі
частуюцца ў мінчанак з рук.

Зусім як райскі сад, Эдэм...
І аніўто не нагадае,
што парк — ускраіна былая,
дзе ў стрэлах чулася: «Нацдэм!»

Нямая цішыня такая...

## Філалагічная балада

Цяплом з-за далечы снягоў
раздзьмула памяць — і не спіцца.
Паклікалі. Спытаў:
— Чаго?
— Не околел?
Сказаў:
— Як быццам.
Гульню ўсчалі:
— Ты уж один
из наших «щирих» белорусов
остался...
Адказаў:
— Вядзі,
ад кроўных слоў не адракуся.
І... адпусцілі — аднаго,
каб мог «зямляк» спаўна накпіцца
з яго зацятага «чаго?»,
з яго бяссільнага «як быццам».
Штокрок хмурнелі кедрачы,
і слаўся следам брэх сабачы.
А ён — ішоў,
ён і ўначы
далёкую краіну бачыў.
Хадзіць ён прагнуў па зямлі
сваёй,
на славу невычэрпнай,
дзе колісь мову берaглі
аднолькава і князь, і чэлядзь.
Ён рыхтаваўся жыць і так,
адзіным сынам у айчыны.
Ці дрэва,
ці трава,
ці птах —
уласнай мове навучыў бы.

Адно б — да родных берагоў,
адно б — туды, дамоў...
Гукнулі:
— Назад!
Спыніўся ён:
— Чаго?
Бязмоўна адказалі кулі.

* * *

Не, не знямелі Курапаты,
тут боль не сціх,
тут стогне дух
пад каранямі дрэў шурпатых,
пад жвірам,
што крывёй набух.
То плач, то скаргу чуе сэрца,
то гнеў...
Тут нават шэпт травы
прарочы...
Дол тут расхінецца,
і выйдуць продкі да жывых.
Іх рукі
з нашымі самкнуцца,
мы станем годна ў поўны рост.
І продкі
з намі застануцца,
інакш — без іх — мы не народ!

# Выпадак з Янкам Купалам

Не будзе ставаць пісталета,
каб з болем узвесці курок,
не ўскінеш і зброі паэта —
знямее надоўга пяро.

Няпэўнасць чакання абрыдне,
і ўспрымеш уночы, як звіх:
у дом заявіліся злыдні
з далёкіх паэмаў тваіх.

Аблiччы двухногіх, а ўмова:
іх мёртваю песняй кармі,
забудзь запаветнае слова,
што клікала звацца людзьмі.

«Нам, злыдням, складзеш велічанне,
зайграеш для нас хваласпеў?»
Змаўчыш ты. Адчай і маўчанне
абудзяць іх помслівы гнеў.

«Хадзем жа, Купала!» —
і з гэтым
праляжа такая мяжа,
што звыклую зброю паэта
заменіш на холад нажа.

Сябе ім параніш няўмела,
душы не заклаўшы брыдзе...
...І толькі пазней твае цела
ў маскоўскім гатэлі ўпадзе.

4. Зак. 768.

# Праз гады

*Паэтам «Нашай Нівы»*

Не слава, тым болей не подзвіг
на мове знябытай пісаць,
што марна, маўкліва не пройдзем,
каб локці пасля не кусаць,
паўз гэты народ нелюдзімы,
падвольны валадарам, —
без хлеба, без ласкі радзімы,
дзе бедны і свіран, і храм.

Зняверацца, зноў спадзявацца,
што ён, як паўвеку назад,
адкіне ганебнае «дайце»
і зможа «аддайце» сказаць, —
не подзвіг, тым болей не слава,
а доля; мы з ёю змаглі
вярнуць незайздроснае права
быць голасам клятай зямлі.

Мы вецер, які не змаўкае
над цішаю ніцай травы,
над нівою роднага краю,
дзе чуецца кліч векавы.
Адсюль узялі мы свой голас —
у гневе, надзеі, журбе...
А той, хто парваў гэту повязь,
хай лічыць «героем» сябе!

* * *

Які ні ёсць, а родны край — святыня,
ці райскі сад, ці пырнік ды жарства;
камусьці дарагая і пустыня —
даволі месца ў ёй для хараства...

Зрадняцца з краем і такім нашчадкі:
як нам — лясы і рэкі, ім любіць
абсяг зямлі, аголены і гладкі,
шнуры канаў, адкуль вады не піць.

Што ж, кроўнае не мае вымярэнняў,
блюзнерства — на калыску наракаць,
але рупліўцам з новых пакаленняў
нядбайных продкаў, нас, не апраўдаць.

Працягнем ім рачны рукаў парожні,
не луг рассцелем — спляжаны папас,
і стане за наступнікаў трывожна
так позна... І яны жахнуцца з нас!

# Покліч гісторыі

*Анатолю Сідарэвічу*

І гэты, і той — «мая»,
і хціўцу «мая», і здрайцы.
Гарэніць твой лёс, зямля,
расхоплены на акрайцы.

Каму — пахвальба ў гасцях,
каму — далягляд ружовы,
а мне — дык зваротны шлях
пад водбліскам перуновым.

Свет белы... Чырвоны след...
Спынюся за той вярстою,
дзе мову тваю і хлеб
дзялілі адной сям'ёю.

Спытаюся: дзе, калі
згубілі імя і гордасць?
І продак на бел-кані
пакажа мне тройчы кордам.

На захад махне, на ўсход
і раптам нацэліць прама
бліскучы халодны корд —
звалюся пад Вострай Брамай.

Назад не прыйду, зямля,
ды сілай жыцця і слова
я голас падам здаля,
каб лёс твой з'яднаць нанова.

## Апошнія хвіліны Ігната Грынявіцкага

Ідзіце! Датрываю муку
адзін, без крыўды на сяброў:
няхай
мая
згарае кроў
на стылым пецярбургскім бруку.
Дарма было прасіць у Бога
за волю
меншую цану —
яму і адкажу, чаму
падняў руку я на «самога».
Самадзяржаўная пыхлівасць
згідчэла!
Бы й халопскі лёс...
Свой крыж я да канца пранёс,
мая царыца — справядлівасць.
А там... на цёмнай Беларусі...
мне ці паверыць мой народ?
І хай! Яшчэ настане год,
які яго прачнуцца змусіць.
Магчыма, сведчыць потым буду
я, мёртвы, годнасць, моц яго,
а вы...
Вы з ім не аднаго
адолець зможаце прыблуду.
Ідзіце! Абмінаць мусова
мясціну гэтую царам,
а кроў — хоць кропля —
будзе вам
свяціць журботна і сурова.

* * *

З нязвыклага імя Яўхімія
ў камбінезонах дзецюкі
пакепвалі: «Вунь баба Хімія...»
Быў лёс яе, як лёс ракі, —
тае глыбокае і чыстае,
што абмывала маладосць
і над якой дубы вячыстыя
ў тым часе выраталі скрозь.
Калі рака, было, захворвала,
тады і дрэвы, і яе
замовай Хімка адгаворвала —
такая байка існуе.
Ды вось жа потым «нахімічылі»:
раку, і дрэвы, і аер
звялі... Імя старое Хімчына
перамянілі на мадэрн.
Даўно было. Я ж бачу: чэрпае
яна ваду — і цвіль, і муць,
а дзецюкі, угору чэравы,
у едкім воблаку плывуць...

## Астравок у моры Герадота

Зарослая сцяжына.
Па пяты — брод.
Прагорклая ажына.
Ажыннік.
Дрот.

Крапіўнік на сядзібе,
не першы год
ігруша не ўрадзіла:
счарнелы плод.

І самасеем жыта
пайшло на звод.
А хто, пытаю, жыў тут?
Скуль знаць.
Народ.

Скрыпяць memento mori
вяз, азярод,
і пуста, нібы ў моры...
О, Герадот!

## Беларуская элегія

Быццам прожылак рукі —
след зімовае ракі,
ледзь відно,
як над стагамі
снег снуецца трапяткі.

Белы край,
ды светлай гамы
не стае яму,
на жаль,
вечна ён —
між берагамі,
доля па-над ім — кругамі,
і не бачна,
дзе мяжа.

Снег прысыпле берагі
і наблізіць той,
другі;
там пакіне хату слова
ці здрыганецца ад тугі.

Там бялюткая абнова
на ўчарнелы ў горы край
ляжа суха,
папярова,
там знямее наша мова,
хоць вятрыскам загукай.

Там —
расстайныя шляхі,
там нямоглы і глухі
на апошняй скрыпцы продак
памінае лёс ліхі.

Сцішны, скрушны асяродак.
Пасыходзілі адтуль
завадатар
шумных сходак,
гаспадар
збуцвелых сотак,
там яшчэ скрыпач пакуль.

Скрыпку выпусціць з рукі,
і заціхне пульс ракі...

## Пасляваенная балада

На сваіх усё руках:
сена ў копы — па імхах,
дровы ў санках — па лядку,
зрэдку дзетак — па садку.

Рукі-ручанькі баляць:
і касіць самой, і жаць.

На сваіх усё руках:
ткаць ды прасці — па дварах,
за ручнік — па медзяку,
па слязіне — на шчаку.

Рукі-ручанькі баляць:
ні прасіць, ні жабраваць.

На сваіх усё руках:
вестку — мужу ў Салаўках,
хлеб — матулі на палку,
хрэст — на картачку ў кутку.

Рукі-ручанькі баляць:
гора горам не падняць.

На сваіх усё руках:
дзетачак — па дактарах,
а самой — па скразняку
то ў палях, то на таку...

Рукі-ручанькі баляць:
цяжка свечачку трымаць.

* * *

Ветэранам вайны — без чаргі,
інвалідам вайны — асабліва,
і не толькі па хлеб альбо піва,
і не толькі на пляц, пад сцягі.

Без чаргі — класці кветкі, вянкі
і схіляць у маўчанні галовы
над сябрамі,
над лёсам суровым,
што не выбаліць і праз вякі.

А да іх без чаргі — дактары,
а да іх без чаргі — санітаркі,
але раны баляць,
але шпаркі
адыход — без чаргі, без пары...

# 15 красавіка 1990 года

Дзень вясновы, святы. Уваскрэсенне.
Шклянку ў рукі, а рукі на стол.
Не пялёсткамі думкі растрэсены,
а журбою сяброўскіх лістоў.

Іх, бы кнігу жыцця, перагортваю:
змрок Нямігі ды стронцый Сажа...
Беларусь — ні жывая, ні мёртвая:
ні квітнець, ні ў магіле ляжаць.

Чую гул капытоў пад сталіцаю,
а ў правінцыях — мроя, драма.
Сонны водгук. Вярбінаю ніцаю
косы туліць, а веры — няма.

Тая вера — за горамі, доламі
ды на сцежках, што мкнуць за платы.
Ці ўваскрэснуць,
ці ўстануць над доляю
Курапаты, Палессе, Хатынь?

Тая доля — мая, беларуская:
хоць нудзьгуй,
хоць кляні, хоць звыкай,
а ўпадзі на калені... Як хруснула
велікодная шклянка ў руках!

# Пляц Незалежнасці

Калі трымцеў сухмень ліловы
і вусны зводзіла ад смагі,
бы кроплі, выбліснулі словы
з-пад анямення і знявагі.

І дождж, які хацеў праліцца,
адумаўся і знік за пляцам:
цяпер было чым наталіцца,
цяпер было за што баяцца.

З таго і вочы звільгацелі,
з таго й палотнішча ўрасела,
і покуль кроплі мільгацелі,
душа на нітачцы вісела.

І хай не схлынула адразу
задуха — волі дня замала, —
ды гэты пляц быў як аазіс
для ўсёй рэспублікі засмаглай.

* * *

Кут мой і карчуюць, і выполваюць,
пыл зрыжэлы — спадчына балот.
І блукаеш колішняю поймаю
ў пошуку: не ўсё ж пайшло на звод.

Спынішся пад лозамі збуцвелымі,
радуешся: краскі ажылі.
Вунь узяўся ў зацені падбел цвісці
сотняй мяккіх сонейкаў зямлі.

На самотным, на зламаным хутары
шчэ скрыпіць замшэлы журавель.
Студня, як заўсёды, не замкнутая —
пі з яе свой пераспелы хмель.

А прыгледзішся,
і зноўку паляшучанька —
сэрца ёкнула ці буркнуў гром? —
пастаіць на ганку, нерашучая,
покуль вытне ў початак вядром.

Пабяжыць вада крынічкай поўнаю
ў неруш лесу, у абсяг лугоў...
Як мой кут маленства ні выполваюць
адрастаюць памяць і любоў.

# Палессем

Шаша — у абгон дваццатага
стагоддзя. Ані ляска.
Сухмень. Без былой зацятасці
аграрнік выслiньваў сказ:
маўляў, ужо дакарчоўваем...
А я пазіраў туды,
дзе вёска не зачароўвала —
прыхоўвала ад бяды
рот марлеваю палоскаю
ды сеяла цяжкі хлеб:
нібыта прышэльцы з космасу
спусціліся ў новы стэп.
Ах, што ж я? Мае спакрэвічы,
асілкі маёй зямлі...
Згадалася: Караткевіча,
нібы караля, вялі;
паказвалі, бы акропалі,
бары, курганы... Той год
далёкі быў ад Чарнобыля,
хаця й прыкрываўся рот.
Сямі- і васьмідзесятыя.
З паэтам бары сышлі...
Мы ехалі. Як распятыя,
віселі ўгары буслы.
І нема іх душы ўскрыквалі:
не стала б — ці ўбяражом?! —
зямля пад белымі крыламі
зямлёй пад чорным крыжом.

## Санет-экспромт

Калі човен хваля ўздыме,
кіне ў вір — мацней грабі.
Дружа мой, мой пілігрыме,
нам ці страшыцца глыбінь!

Калі нізка хмара грымне,
нібы скоціцца з драбін, —
у залеве й чорным дыме
ты адвагі не згубі!

Мы былі тут маладымі,
мы вяртаемся другімі:
волас ломкі, зрок слабы...

Бераг родны набылі мы,
неба роднае! А з імі —
вір глыні ці гром забі!

* * *

Дом наведваць, кут, дзе нарадзіўся, —
паўтараць сябе,
жыць пачынаць наноў.
Столькі ў нас — у кожнага —
дзяцінстваў,
колькі мы разоў
завітвалі дамоў.

## Памяці Міхася Рудкоўскага

«Адно былым, — казаў ён, — і жыву,
разгон узяў у вёсачцы далёкай...»
І клаў радкі, нібы касіў траву,
а хто касіў — той ведае, ці лёгка.

# Выток

Спаўна даніну аддалі
мы вершамі далёкім вёскам,
куды вяло нас ад сталіц
маленства спеўным адгалоскам.

Мацнеў і глыбіўся радок,
калі расстайны час палохаў,
што абмялее наш выток,
знямее, як сама эпоха.

Нас не прывабліваў Сусвет
бязмежны, стылы, безадносны,
нам сэрцы грэў, бы запавет,
крынічна светлы сум па вёсцы.

Быў сум той — вернасць; не маглі
ўпадобіцца метэарытам,
што прабівалі цвердзь зямлі,
праходзячы ў нябыт з нябыту.

Між процьмы зорак і планет
шукаем і цяпер начамі
той мікракосмас, мікрасвет
пад небам, шклом павелічальным.

Як выпала б гады вярнуць,
аснову набіраць нанова, —
няхай бы даў нам Бог дыхнуць
яшчэ раз першаісным Словам.

# З мастакамі на эцюдах

*Міколу Маеўскаму*

Горам прыйшло адкрыццё:
самыя важкія словы
вечныя трацяць асновы...
Фарбы! Пра што маўчыцё
над краявідам суровым?

Сеем, кахаем нанова,
але сядзіць, бы асцё,
розгалас палешуковы:
як нам вярнуць пачуццё,
што гэты край не часовы?

Скончыўся дождж прамянёвы,
звяла ў зародку дзіцё...
Шэптам бязмоўнай замовы —
цёплы сюжэт мастаковы:
жыта, жанчына, жыццё.

## Мужная мова

Асцярожны
да кожнага слова,
як мой дзед — да зярнят пры сяўбе.
Мая родная
мужная мова,
ты ўвесь век бараніла сябе.

Шмат разоў
спрабавалі чужынцы
тваю музыку-спеў паланіць.
Ды звінела ты
ветрам у жыце,
рэхам пушчаў
і срэбрам крыніц.

Ты ўвабрала
ў пялёсткавы гоман,
у вясельны
і ў жніўны напеў
подых буры
і грукаты грому,
і маланак распалены гнеў.

І які б час ні выпаў суровы,
веру —
зноў абароніш
сябе...
Асцярожны
да кожнага слова,
як мой дзед — да зярнят пры сяўбе.

# Палескі трыпціх

## *1. Вёска*

Дзве чакаюць вёскі
нас у кожнай вёсцы:
гэтая — у госці,
тая — на пагосце.
Святасцю сагрэты,
дбайнасцю прыбраны:
чыстая падлога,
чысты дол дзірванны.
Ружа — пад акном,
шыпшына — каля гаю.
Першая завяне,
зацвіце другая:
«Ой, там гай ля поля,
а ў ім кветка-доля,
не хадзі ў шыпшыну,
малада дзяўчына...»
Маладыя леты
вольнай чарадою
паплылі з вятрамі,
прыплылі з бядою.
Пацяжэла поле,
пацішэлі хаты:
«А мая ж ты доня,
ружачка мая ты!..»
Здзіўленыя песняй,
кланяемся вёсцы —
і табе, Паніўе,
і табе, Пагосце.
Не змаўкае голас,
доўжацца гасціны:
«Ой, пайду я ў поле,
пасаджу шыпшыну...»

*2. Дарога*

Цёткі і студэнткі.
Куль з-пад рук куляецца.
«Сядзьце з намі, дзеткі,
ногі не купляюцца».
Спёка, пыл і стома.
«З горада вы, родныя?»
«З горада, вядома».
«Бач, зусім не гордыя».
Сарамлівасць — хвіля.
Ціха «маг» папісквае.
«Што вы ў нас забылі?»
«Песні тут запісваем».
Слова. Зноўку слова.
І пайшло-паехала:
«Дзеўка чарнаброва
дый была пацехаю.
Ой, у бровы-дужкі
кавалеры ўбрычаны...»
Да магнітнай стужкі
вочы прымагнічаны.
Быццам каляіна
каля дому кружыцца,
а на ёй — слязіна:
«Годзе, бо знядужыцца».
Вінавата ўсталі
за вярсту ад станцыі:
«Во, і ўратавалі
песню з радыяцыі».
Зычаць кожнай шчасця
і журботна-весела:
«Дзеткі, прыязджайце,
паміраць як вернемся...»

*3. Горад*

Што вы зноў пра поле,
поле без канца?
«Збажына ў прыполе,
а на ёй — дзіця.
Нарадзіла дзеўка,
бы ў снапах знайшла...»
Гэта што за спеўка
з даўнасці ўзышла?
Спеўніцы-дзяўчаты,
модніцы мае,
шпаркі век дваццаты
іншае пяе.
Тое ваша поле
зацягнуў дзірван —
жальбаю не ўколе
тлумны рэстаран.
Ці не лепей згоцаць
гуртам па тамтам,
каб настырам-хлопцам
ногі адтаптаць?
Каб музыкі рукі
сцерлі да крыві.
Гіканню і груку
вучаны і вы.
Дык чаму ж паселі
сцішана ў кутку?..
...Граліся вяселлі
ў новым гарадку,
дзе для вёскі — вырай,
дзе для песні — пост,
дзе яшчэ не вырас
ні адзін пагост.

* * *

Я маску скідваю — даволі,
мне надакучыў маскарад,
ад прыхарошанай няволі
ўцякаю ў мой харошы сад.

Другая сустракае зала:
ад сонца свецяцца шары,
якія восень нанізала
на вінаградныя шнуры.

Ёсць і ў прыроды рэжысёры,
залатары і мастакі,
ды не прытворы, не пазёры,
ім маскавацца не з рукі.

Стракацяцца зусім не маскі
ў запрошаных на дзіўны баль:
жывы тут нават холад краскі,
якая адцвіла амаль.

І я чакаю, што занудзіш
і ты па гэтай прастаце,
што ты спяшацца ў сад мой будзеш,
пакуль ён барвамі цвіце.

Як лісцік лісцікам, у ласках
сагрэецца шчакой шчака,
каб і на пасмяротных масках
змаглі ў нас шчырасць адшукаць.

# Мальба

Не за свою молю душу пустынную...

*М. Лермантаў*

Бездань імглістая,
што над ёю навісла,
на слова аб літасці
адзавіся.
Поўня бялюткая
ў вокнах замружаных,
літасцю лютасць
адужай.
Сцюжы касмічныя,
палагаднейце,
здзьмуць яе знічку
не смейце.
Не датыкайцеся
холадам-згубаю.
Мне яна — каюся —
любая.
Болей, чым лекару —
богу найвышшаму,
болей, чым некаму
іншаму.
Хай яна ўстане
з хворасці раніцай,
хоць мне ці стане
абранніцай.
Хай на мяне яна
нават забудзецца,
ды ад знямення
хай збудзіцца.
Вы пра каханне
мяне не пытайце —
проста дыхання ёй
дайце!

# Балада граху

Ля залатога парога
яна, мне аддаўшы яблык,
спакойна пайшла да бога,
а я скіраваў да д'ябла.

І д'ябал за мой учынак
з кагорты сваіх наложніц
найлепшую даў жанчыну
і самы мякчэйшы ложак.

Юрлівасць начнога балю,
задуха слязы і поту
душу маю выбаўлялі
ад роспачы і самоты.

Я думаў — яны ўратуюць
ці знішчаць, але памалу
забудуся я на тую,
што яблыка не спазнала.

Ды раніцай зноў узнікла:
балюча падцяўшы вусны,
святое дзіцё, цнатліўка
стаяла сярод распусніц.

У зрэнках — ні шклінкі лёду,
пагарды ані на твары.
«Твая, — д'ябал мне. — Валодай».
А я не прыняў ахвяры.

Збягаў ад брыды і блуду
і скрушна крычаў я: «Годзе!..»
Дый сёння яна паўсюды
за мною, як помста, ходзіць.

# Двое

Злева і справа — у вокнах агонь,
двое чакаюць адно аднаго.
Злева і справа — па ценю на шкле,
а па-за імі — хлеб-соль на стале.
Бліскі святла растаюць у кутах,
слепіць жаданне, туляецца страх.
Вецер знянацку шумне на дварэ —
крыллем раскінуцца двое дзвярэй.
Ветру абое шапнуць наўздагон,
ды не пачуюць адно аднаго.
Будзе між імі шчымліва, бы жаль,
ноч неспазнанасці доўга ляжаць.
Пойдуць уранку па вулках блукаць
злева і справа — па розных баках.
Нехта ўгары скрозь імжу паглядзіць:
ці асудзіць іх, а ці блаславіць?

* * *

Пачую кліч, убачу шлях —
скажу:
        ідзі і сэрца слухай.
І не ўтрымае прыкры страх,
што радасць
                змяніцца на скруху.
Масты зваротныя спалю,
каб уваскрэснуць,
                        абнавіцца,
і ўжо навекі палюблю
зямлю
        пад зоркай Мілавіцай.
Усё: разважлівасць, спакой —
аддам удзячна за імгненне
сустрэчы нашай, для якой
яшчэ гарыць
                яе праменне.
Настане час той паўнаты,
калі ад шчасця захлынуся...
А ўсё ж як міма пройдзеш ты?
Змаўчу.
        Стрываю.
                Пакланюся.

* * *

Стрункая дарога між балот.
Заасфальтаваная радзіма.
Тваю песню прытаміў палёт:
на плячо мне птушкай пасадзіла.

Шчыра прыхіліла да шчакі
валасы мякчэйшыя ад пер'я.
Ах, жылі-былі палешукі
па Задуб'ях ды па Заазер'ях.

У Зачассе ўсё цяпер сышло,
не вярнуць ні пошапам, ні крыкам.
Дык чаму ж у ветравое шкло
б'ецца песня акрыялым крыллем?

Заспявай яшчэ раз, заспявай,
адпусці журбу сваю на волю,
каб на ўскрай дарогі родны край
выйшаў і расстанне запаволіў.

Застанецца наша птушка там
і з любых краёў, парой любою
будзе клікаць — дапаможа нам
боль кахання заглушыць любоўю.

## Старадаўні раманс

Той вечар скрыпкі пачыналі
нягучным пафасам і жалем,
і непрытворна дагаджалі
скрыпачкам хвалі рук у зале.

Былі тут возера і востраў,
прыліў пад месячнай святлынню,
і плынь прачытвалася проста:
жыві, абагаўляй хвіліну.

Чародкі птушак белахмарых
зляталіся з вышынь і даляў,
даверам крыўскіх страдывары
на струны і смычкі сядалі.

Была адна, чый спеў аб волі
найбольш кранаў і заварожваў,
і зводдаль позіркі два воі
перакрыжоўвалі варожа.

І немагчымай засцярога
была, і голасам адчаю
не ў лад з гармоніяю строгай
надрыўна скрыпіца гучала.

Дарма сяброўкі туравалі
ёй шматгалосіцай аб міры.
Той вечар скрыпкі пачыналі,
той вечар скончылі рапіры.

## Жарсць

Яна смыліць найзгубней, найзырчэй —
няўтольная, няўтоеная смага!
Яна — нязбытны жар на дне вачэй,
яна — нясмеласць, і яна — адвага.

З ёй думкі пра кароткасць веку — прэч,
імгнення досыць, самай лёгкай іскры, —
і ўспыхвае, пярэч ці не пярэч,
яна, як дух паганскі, першаісны.

Яна агнём шчасліўца абвіла,
яна змяістым полымем танцуе —
ёй усё роўна, каліва цяпла
ці зберажэ на старасць ледзяную!

* * *

З двара на падвоканне
палавіністым яблыкам
поўня паклала дзве светлыя плямы.
Па акругламу ценю на кожнай,
па абрысу няўцерпных далоняў.
Няўлоўнае іх набліжэнне
змушае сціскацца і злёгку трымцець
срэбны пасак сяйва —
зыбкую лінію адчужэння.
Насустрач адна адной
міжволі зрушваюцца фіранкі,
і змыкаюцца з далонню далонь,
і яднаецца поўня...
Дрыготкі малюнак месячнай ночы
саступае прыглушаным гукам,
і болей нічога няма,
апроч вузенькай цьмянай палоскі,
што ўсё яшчэ дзеліць акно,
і яблык, і нас
напалову.

* * *

Хворы быў на шэрую тугу,
весні свет і той шарэў, як морак.
Ты прыйшла — і як я жыў учора
і ці жыў, успомніць не магу.

Мусіць, жыў, калі збярог душу
і яна напоўнілася словам.
Ты прыйшла — і свой настрой нанова,
быццам сумны верш, перапішу.

Белы свет хай белым і цвіце,
вунь чаромха распушыла шаты.
Я не ведаю, адкуль прыйшла ты
і куды цябе твой шлях вядзе.

Калі ёсць, і праўда, шлях другі,
перакрэслі мой тады
і нават
загубі мяне — ты маеш права,
толькі шэрай не вяртай тугі!

## Кветкі на аэрадроме

Калі адлятаў ад цябе,
упершыню забаяўся
і гэтай сваёй рашучасці,
і гэтай нябачнай дарогі,
і гэтага халоднага неба,
і гэтага зуха-пілота,
якому было ўсё роўна,
што я адлятаў ад цябе.

Але абышлося; адно што
на ўзлёце «ТУ» гайданула,
і потым пілот ганарыўся,
што ўправіўся са штурвалам.
А гэта ж не ўзятыя астры,
якія ты кінула следам,
чапляліся ўпарта за крылы,
ды ўпалі назад: абышлося.

* * *

Холад сяброў перабудзем,
сцерпім звяглівасць радні.
Знойдуцца добрыя людзі,
возьмуцца цёплыя дні.

Там, дзе суровая зеўрыць
строма-адчай, —
бы стырно,
з'явіцца вера, без веры
згінула б людскасць даўно.

Не наракаем — так выйшла,
дзякуй, не даў нам злабы
той, хто над домам найвышшым
нашую зорку згубіў.

## Грэшніца

Цябе асудзілі:
з пагарды няўтоенай,
перашэптаў,
з насмешлівых позіркаў
раздзьмухалі вогнішча —
твой грэх спапяліць.
І ты адраклася,
пакаялася,
каханне адпрэчыла,
імя дарагое забыла...
Хіба не было гэта
новым грахом?

* * *

*З. Н.*

Мы сто разоў з табою назаўсёды
развіталіся роспачна і смела.
І сто разоў я, нематой свабоды
спустошаны, цябе ўяўляў памерлай.

І спахапляўся — ва ўспаміне мройным
самотна-сіратлівымі начамі
цябе я клікаў словам невымоўным
адтуль, дзе вечны холад і маўчанне.

Знікаў і сам... Быў дол сыры і цвёрды,
і неба чарнатою навісала.
Я ўжо напраўду сто разоў памёр бы,
калі б ты кожны раз не ўваскрасала.

З жахлівасцю хаваю нашу тайну
мінулага, каб прышласці не збыцца:
пярэчу я сто першаму расстанню,
калі й са смерцю можна прымірыцца.

* * *

Шчаслівыя мы ў гэты міг кахання:
ты ўпершыню, а я ў апошні раз.
Няхай бяздонне падзяляе нас —
шчаслівыя мы ў гэты міг кахання.
Таму, што здыме час
твой боль расстання,
а нада мною ўжо не ўладны час, —
шчаслівыя мы ў гэты міг кахання:
ты ўпершыню, а я ў апошні раз.

## Снежнасць

Шкляная будка аўтамата
скрозь сіні снег свіціцца.
Ты зябка круціш дыск,
і страта
вяртаецца:
— Не спіцца?..
Адгукваюся:
— Добры вечар!
Ты дзе, чаму так позна?
— Далёка я...
За Шляхам Млечным...
І ў трубцы — толькі позвы.
Прачнуўся: «Сон?»
Ды снег,
з балкона
напытляваны ветрам,
збярог мой след да тэлефона
няглыбкі, ледзь прыкметны.

* * *

Блякнуць ліхтары:
белы холад.
Лапкі дагары —
мёртвы голуб.

Вуліца — шпіталь:
снежна, сцішна.
Адзвінеў крышталь
кропляй лішняй.

Гарадскі народ
спаць паклаўся.
Вось і Новы год.
Дачакаўся...

З любасцю ў крыві
адзінока.
Пустату лаві
з мерзлых вокнаў.

Ля яе варот
дзеля смеху
пасадзі на плот
гурбу снегу.

Стань, каб тут з'інець
маўзалеем...
Хутка будзе днець.
Пацяплее.

* * *

Калі завітаю ў той горад,
куды мяне вабіць каханне,
дык блізка са мной загаворыць,
ажно перахопіць дыханне, —
спічастыя дрэвы ды цэрквы
над цёмнаю роўняддзю плёсу.
Сухія вянковыя церні
кальнуць непазбежнасцю лёсу,
праніжуць уявай нязменнай:
ты цэркваў і дрэў аднагодка,
ты тут, за сцяною каменнай,
што дзеліць нашчадкаў і продкаў.
Душа тут... А гэта нямала.
Чужая ты ў горадзе новым...
Згублюся я ў новых кварталах
з настроем сваім палыновым,
якому не будзе адхлання
й тады, калі ў шумным народзе
знаёмая постаць паўстане
на вулічным пераходзе.

* * *

Абвясціла з'яўленне цуду,
пакаціла з-пад ног Зямлю:
«Памятáць цябе вечна буду
і ніколі не разлюблю».

А Зямля толькі круг зрабіла —
прытрымала яе на міг:
«Разлюбіла цябе, забыла,
цуд не дзеецца між людзьмі».

І, самотная, адплыла ты,
адпіхнула пукаты груд...
Абвясціла з'яўленне страты —
п і страту прыняў, як цуд.

## Бэз

Кветкі бэзу вось-вось абляцяць,
але ўсё-ткі дужэюць на золку,
яны здатныя нават трымаць
росы цяжкія, пахнуць, як зёлкі,
поўніць хмелем падворкі, сады...
Часам гэтак ажывіцца квецень,
што й цяпер, не зусім малады,
ловіш пах той кахання і смерці.

## За горадам

Не грукнуць у дзверы.
Не сядуць за стол.
Адзін, нібы вязень-бягляк...
Выходжу, прыплечыўшы паліто,
нячутны для чуйных сабак.
Нябачны для горада і для цябе,
блукаю між дрэў,
а ў вадзе,
якой па калена сагнутай вярбе,
сачу, як з'яўляецца дзень.
Так ціха і мякка
світае на дне,
а вочы на ўсход падыму —
блішчыць,
бы акенца на цёмнай сцяне,
край сонца...
Я рады яму.
Тады мяне чуе ўвесь бераг пусты,
тады мяне бачыць рака,
а горад шле вестку:
хапілася ты
знайсці і вярнуць бегляка.

* * *

Мне запомніцца гэтым вандроўка:
на паўстанку, шмат вёрст ад сталіцы,
спіш — і месяц скрозь хмарку свіціцца
над тваёй залацістай галоўкай
у няяркай краплістай хусцінцы;
і ківаецца колас пшаніцы
з ціхай-ціхаю божай кароўкай...

* * *

Папросіць вуліцу знайсці,
ёй боязна — і вось прычына,
каб адзінокая жанчына
з табой прайшлася па жыцці.

Хаця б даростані дарог,
хаця б датуль, дзе тлум начлегу,
дзе ад гатэльных «печанегаў»
яе абараніць бы мог...

Занадта лёгка абудзіць
гуллівасць, калі хутка сорак
і дух твой не ляціць да зорак —
да ліхтароў не даляціць.

І ты мяняеш свой намер...
Ідзеш за ёю вулкай гразкай,
як пры службовым абавязку
пануры міліцыянер.

* * *

Не варты я цябе: скупы, звяглівы;
ні шчодрасці былой,
ні чысціні,
ні простага жадання стаць шчаслівым.
Жыву, як пагарэлец.
І ў агні,
што не разгоніць цемрадзі густое,
абвугленыя згадкі варушу...
Не варты я цябе хаця б за тое,
што пакахаць,
нібы падаць,
прашу.

# Яблынька

Ты хочаш, дзяўчынка,
каб я выглядаў
недарэчна і смешна,
як леташні ліст
на вясновай яблыньцы?
Стрываў бы... Але
каля дрэўца кахання
яшчэ больш недарэчна
выглядаць будзеш ты, —
фарбуючы ліст гэты
ў колер зялёны.

* * *

Не пі, дзяўчо! І не прымай на плечы
далонь, што хістка тнулася рабром.
Яшчэ такая чыстая сінеча
ў тваіх вачах світае серабром.

Яшчэ на беразе тваім — пагода,
вясковы люд і конікі ў траве,
і школьным фартушком у родных водах
так лёгка белы ветразь твой плыве.

Пакуль яшчэ ў вачах незамутнёных
няма адбітку п'янай сумятні,
з плячэй тваіх рабро чужой далоні
ты спахмурнелай хваляю змахні.

Зірні, які густы і небяспечны
ўскалых віна — мазутам у трысці...
Не пі, дзяўчо! Світальнае сінечы
з азёраў матчыных не атруці.

## Усмешка

«Ах, што ж я? Ёсць яшчэ жыццё!» —
падумаеш не ў скрусе, а ў гуморы,
калі ў шматлюдным, цесным калідоры —
хай незнарок! — свавольніца-дзяўчо
штурхне ў плячо і ўсмешкаю адорыць.

* * *

Бядотны хлопец ты:
свайго не ўпусціш,
ды сцеражыся з рэўнасці згарэць.
Няўсцерп табе
на прыгараднай пустцы
мяне, як ненавісніка, сустрэць.
Даруй,
тваім супернікам не стану
і, хоць зарэж, не выйду на двубой.
Я выйграў бы —
твой нораў апантаны
разбіўся б
аб халодны нораў
мой.
Ці ведаеш — у слове безуважным
больш моцы,
чым у жаласнай мальбе?
Меў страты я, і гэта — козыр важны,
дый з твару шчэ не горшы ад цябе.
Але супернікам?..
Ні ў якім разе,
лічы, што [redacted] збаяўся — і ў кусты...
Адзінай саступаю перавазе:
ты юны
і яе кахаеш ты.

* * *

Я хутка пайду...
Затрымай на хвіліну,
такія спагадныя рукі ў цябе!
Такімі, напэўна, замешвалі гліну
на першай любові, на першым цяпле.
У іх дабрыня і дакор — ад Самога...
Яны не для зла, не для сквапных уцех.
Усё блаславёнае імі: дарога,
і прага вяртання,
і кара за грэх.
Дазволь затрымацца. Адпрэчу ваганні,
да рук, што стварылі мяне, прыпаду
без крыўды і жалю:
калі я выгнаннік,
дык з раю выгнаннік!..
Я хутка пайду.

* * *

Дзякуй табе за крылы,
светлы мой птах!..
Яны
а ці дадуць мне сілы
зрушыць цяжар віны?

Ім ці падняць высока
мой некрылаты лёс?
Стомлена,
адзінока
ў дол ён палынны ўрос.

Крылы ўздыму, ды ў скрусе
ў самы апошні міг
зболена азірнуся:
як жа табе
без іх?!

Пэўна ж,
не маю права —
будзе заўжды ў вачах
вобраз шчымець: у травах
бедны, падбіты птах.

Стане журбой маёю,
і не змагу суняць:
стратнае з вышынёю
як я пасмеў з'яднаць?

Вольная ты,
святая,
не для цябе мой дол.
Дар твой назад вяртаю,
спознены мой анёл.

Шчасця й таго мне досыць,
каб твой расстайны ўскрык
лёгка забрала просінь
з шолахам белых крыл.

І каб мой бераг стылы,
што
не для нас,двaіх,
помніў заўсёды крылы
і сумаваў па іх.

* * *

Выйсці ў вясновасць двара
і захлынуцца адразу
песняй, пакуль не пара
правіць і слова, і фразу.

Сёння мой прагны радок
здатны падыхаць чаромхай
так, каб бялюткі пылок
лёг на прадымленых бронхах.

Толькі ў сваволі адчуць
рытмаў і вобразаў сувязь:
чорнай зямлі каламуць
снежнай чаромсе пасуе.

Можа праз дзень адкружыць
квецень — а сёння ёсць права
быць дасканалай душы,
як і прыродзе, без правак.

## У бяссонні

Ці вейкі сплюшчыш, ці прытоіш
дыханне,
ці застынеш ніц, —
а ўсё пра тое ж і пра тое ж
струна танюткая звініць.

Не называеш словам,
глушыш
назойлівы шчымлівы звон,
але ўсё роўна слухаць мусіш
і пагаджацца на палон.

Ты чуеш тое, што ні вецер,
ні ноч, ні лісцік трапяткі
не чуюць;
ты нікому ў свеце
не адкрываешся такім.

Нявольнік востраў, тонкай болькі,
ты пачынаеш разумець:
твой боль — жыццё,
жыццё — і толькі!
Ёсць боль — адсутнічае смерць.

* * *

З мінулага складаецца жыццё,
і хоць назад нікому не вярнуцца,
а хораша, калі ў нас адгукнуцца
былыя дні і ўколюць, бы асцё.

Кахаць умелі, крочылі наўпрост,
слыў кожны з нас і сціплым, і адважным.
Ці мо здаецца так?.. Дык і не важна:
наперадзе ляжала столькі вёрст!

І хай заўжды надзея ёсць, але
скажыце,
хто з гадамі стаў шчаслівейшы?
Нам і цяпер пачатак блізкі — тым, што
ён ад мяжы апошняй найдалей.

* * *

Зноў я дома, дома, дома.
І паўзмрок, і цішыня.
І матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна.

Кола месяца за ёю,
задуменнай, маладой,
залаціцца чысцінёю,
быццам німб над галавой.

Цень кідаюць дрэваў шаты,
ды з таго яшчэ відней:
за сцяною гэтай хаты
мне ні трошкі не вальней.

Што за воля ў падняволлі
грэшных дум і сумятні ·
біцца, бы вятрыска ў голлі,
абрываць, як лісце, дні?

Адно б доля захацела!
Хату загадзя прашу,
каб адвеялі ад цела
толькі тут маю душу.

Толькі тут ёй будзе добра,
дзе паўзмрок і цішыня,
дзе матуля, як мадонна,
будзе вечна ля акна.

## Суботні ранак

Палатно ў двары. Суседкі.
За шнуры, дзе бляск вады,
зачапіліся прышчэпкі,
быццам ластаўкі за правады.

Свежасць. Дыхаецца лёгка.
Стома выпала з рукі.
Ад святла на чыстых вокнах
сталі белымі чарнавікі.

Воўна мяккіх аблачынак
высахла ў цяпле смугі.
Кружыць голаў адпачынак
ад начной мучыцелькі — тугі.

* * *

Дню люднаму не запярэчу.
Яшчэ не ведаю, чыю
азмрочу холадам сустрэчу
і ад каго сябе ўтаю.

Каму ў хвальбе не падыграю,
з кім слоў прыязных не знайду?..
Нуда, мой божухна, якая —
дзьмуць у мінорную дуду!

На вуліцу ўцяку з падстрэшша,
ды запынюся на рагу:
панурым быць — занадта смешна,
а стаць вясёлым не змагу.

А людзі што? Па ўсіх прыкметах,
спяшацца будуць нездарма.
Не замінаць — і гэта мэта,
калі ў цябе другой няма.

І ў дзень няпэўны, недарэчны
пачну шчэ больш перажываць,
як не папросяць аб сустрэчы,
як не спакусяць падыграць.

* * *

Ёсць пачуццё — дачасна жыў
і ўсё ўжо ведаеш наперад.
Нахлыне, і твой даўні верад —
адно бразготка для душы.

Нішто не мучыць, не гняце,
і сон — без сноў, і дні — без явы,
а ў доме пыл цурчыць бялявы
на падвазоннікі ў куце.

Цячэ халоднае святло
з настольнай лямпы, нібы з кубка,
і стыне аркушыкаў купка:
як быццам снегу намяло.

Цямрэча шорсткая ў акне
пад ветрам плешчацца калючым,
і ўсё звычайней немінучасць,
і твой зыход усё відней.

І толькі недзе ў глыбіні,
там, дзе душа твая згалела,
цяплінка тайны ацалела:
а мо пражыў чужыя дні?

* * *

Самоту я любіў за еднасць
з нябёсамі:
умеў парою
забыць вясковай школкі беднасць
і плыць у воблаках над ёю.

Самоту я любіў за спеласць
крыві,
што стукалася ў скроні
і разбівала аб нясмеласць
жаданне грэць твае далоні.

Самоту я любіў за мукі
з'яўлення слова
і начамі
такія чуліся мне гукі,
што век нікому не гучалі.

Самоту я любіў — а зараз
яна мне сэрца разрывае:
часткова — жаль,
часткова — зайздрасць
да тых, хто небам праплывае.

Была, як таінства святое,
была, як безназоўе шчасця...
Цяпер яна — звычайнасць, тое,
што ў тлуме не дае прапасці.

* * *

На ўзбочыне маёй дарогі,
што абвіла квяцісты горад, —
лістоты прэль, куколь аблогі,
шматкі цукерачных абгортак.

Засноўваюцца павуцінкі
на днях вясёлых, карусельных,
па іх спраўляюцца памінкі
дымкамі ў скверыках асенніх.

І гэтак цяжка быць у згодзе
з такім жа, што і сам нядаўна!
Са мной гаворку ён заводзіць
тут, дзе ад прэлі дыхаць даўка.

Кажу яму ад сэрца ў скрусе:
«Шчаслівы — хто ў пару сталее...»
Кажу яму, а сам баюся:
ён толькі потым зразумее.

## Перасяленец

Які мой горад? Ні чужы, ні блізкі,
аднойчы аб'явіўся — і жыву.
Раней, чым змайстраваў у ім калыску,
паклаў дамоўку пад яго жарству.

У ім няшмат сустрэч, што я запомніў,
а праз гады — яшчэ згадаю менш.
І пад смугою ліхтароў і поўні
шукаю вулку Добрых Перамен.

Але ўсё тое ж: дрэў халодных веча,
і вецер снег пытлюе на муку.
І дзед тутэйшы кажа: «Чалавеча,
няма такой у нашым гарадку».

Знаёмыя дамы ўсе кожнай рыскай,
і повязі я іхняй не парву
з дамоўкай горкай, што была калыскай,
і родным горад мой не назаву.

* * *

Спазніўся я: падняўся самалёт.
Сачу за ім разгублены, бяскрылы.
І колькі ж трэба —
дзень ці, можа, год, —
каб новы шлях нябёсы мне адкрылі?

Што ж, маю сіл і часу пачакаць
пары такой жа — сонечнай, палётнай.
Шчэ да ілюмінатара шчака
прытуліцца з надзеяй і палёгкай.

Ды ўсё ж... Пасля куды б ні завітаў,
журлівага не збуду адчування:
быў найшчаслівейшы ўзлёт — а я адстаў,
быў найшчаслівейшы шлях —
няма вяртання.

## Сузіранне

Няяркіх промняў роскід на балконе,
запылены і выцвілы бетон,
драціна-крук, што тужыць аб беконе,
накрышаны для вераб'ёў батон.

Эмалевы ўмывальнік — кучкай лому,
паніклая кашуля на шнуры,
з лісцём пажухлым клёны каля дому,
пясок, палын, дзядоўнік у двары.

А там зноў мур,
 балкон з нудой турэмнай
ды мой двайнік, ды змрок плыве здаля...
І я нясу ў пусты пакой бярэмя
сухіх і цвёрдых промняў, бы галля.

Сутонне тут, ні прусака няма ў ім,
і цень — мой госць...
 Нікога не суджу.
Ірдзеюць промні, і ў чаканні марным
каля агменю стылага сяджу.

* * *

Шпаркае лета нас выведзе ў восень,
востра кальне пераменаў мяжа:
лісце пасыплецца як з-пад нажа,
клікне нязжатае ў полі калоссе.

Рукі пажаляцца: чэпіцца боязь.
Тонкі ў завоканні смутак смугі
ўсё прыгадае — і плён, і даўгі,
і ці надзейная памяці повязь.

Не расквітацца з даўгамі сваімі —
мужна стрываем дакор мудраца.
Восень нам шанц дасць
дайсці да канца:
жыта дажаць, легчы ў полі радзімы...

## Страта

Захалола пачуццё
ў тоўшчы дзён мінулых,
думаў жа: на ўсё жыццё...
Думка падманула.

І самога — як няма,
з шэрым снегам зліты.
Я з мальбой стаю: зіма,
выйсці дай з нябыту!

Гэтак страшна на мяжы
мудраца і сфінкса!..
...На пахіленым крыжы —
мерзлая травінка.

* * *

Калі на двары ўсё цяплей
і скрозь мільгацяць матылькі,
мне бачацца душы дзяцей,
вунь тая — уласнай дачкі.

Мне музыку крыльцаў, іх такт
балюча на сэрцы насіць...
Дачка не магла проста так
пакінуць мяне назусім.

І любасці столькі ў мяне
да веселуна-хлапчука,
што з ласкаю ловіць — і не
дагоніць таго матылька.

Спаткаюцца, пэўна, яны
не тут, не цяпер — а калі?..
Цяжэе мой камень віны,
і не адарваць ад зямлі.

* * *

Страшна сон яе парушыць —
ветру ўскінуўся павеў,
і над стромай капялюшык
сінім воблачкам плыве.

Пацяжэла аблачынка
і ўжо скача на вадзе...
Страшна, што й сама дзяўчынка
з краю берага ўпадзе.

Бо падсочаны той бераг,
бо, асуджаным на спад,
маладзенькім тонкім вербам
не ўскарабкацца назад.

Бо ўздыхае, быццам шчэлеп,
пад маторнае выццё
зрэз абвалу... А яшчэ мне
проста страшна за жыццё.

Гэтак смела мы планету
за стагоддзі абжылі:
крок, імгненне — і край свету,
небяспечны край зямлі.

* * *

Ці аж да скону так выпала жыць?
Смутак шчымлівы тушыць на дажджы,
позніх прахожых агнём частаваць,
звыкла пад дрэвам чужым начаваць.
Цень твой бязгучны лавіць у акне,
марна чакаць, што твой голас гукне,
крыўду трываць, памыляцца ў сябрах,
перад сабой спавядацца ў грахах.
Мець паўдвара, а ў двары — паўкала,
нават не чуць, што такое хвала,
слава ды грошы, спакой ды ціхмень,
цёплы і ўтульны куток ды агмень.
Повязі з хатаю роднай не рваць,
бацькавым словам хады не даваць,
хоць і заселі яны ў галаве:
«Мусіць, нядоўга на свеце жыве...»

* * *

Якая бурая зіма,
які скупы пачатак году!
Слата і гразь. Шукаць дарма
іскрынак снегу, шклінак лёду.

Зрудзелы тракт — нібы мяжа
паміж адчаем і чаканнем.
Пуршыць іржавая імжа
на ржышча, на ўляжалы камень.

Як зацягнуўся пераход!
Паверу, калі нехта скажа,
што снег бялюткі ў гэты год
ні разу на душу не ляжа.

Магла б аспрэчыць толькі ты,
у сукні белай, маладая,
ды стуль, з дваццатае вярсты,
сюды твой снег не далятае...

I на сумежнасці гадоў,
а мо ў жыцця на самым зломе,
душу гнятуць
былых снягоў
і чысціня, і пакрыёмасць.

* * *

Снег пракінуўся — прапаў,
поўня выбліснула — знікла,
і ўсё стала цьмяна, звыкла:
гразь дарогі, цень слупа.

Як ні слухай, ні глядзі,
чуеш, бачыш толькі слоту.
Што ж было? Ну, што было тут,
апроч змроку і гразі?

Поўня, снег... Ішоў хлапчук,
поўны злагады і веры,
ён лавіў святлынь у цемры,
а ў цішы — шчымлівы гук.

Зноўку ноч. І глуш, як здзек,
і ад слоты — бруду рэкі.
Бы абкрадзены я некім.
Кім? Не ўведаю павек.

* * *

Церпкі прыцемак, трымценне
чашы скрушнае, а ў ёй
ледзь улоўны, плыўкі цень мой
ды мінулае маё.

Ды — з завеі, з кругабегу
заблукаўшыя ў акно —
камячкі сівога снегу
апускаюцца на дно.

Набрыняе, перабродзіць
разам з імі мой настрой,
і змяркальны дзень народзін
памяну журбой густой.

Прыгублю — павее домам,
над якім нябёсаў сінь
абяцала хоць на момант,
хоць на хвілю ўваскрасіць.

Зараз кволіцца ў спагадзе
і знікае, не ўтрымаць,
просінню апошняй радзіць
мне і памяць знебываць.

З новага адліку часу
рэдка будзе сінь відна:
снег запоўніць гэту чашу,
выпітую мной да дна.

# Пасля адвітання

Не спіце тварам дагары
пад шэрай плынню гэтай ночы.
Я не аб тым, што заклякоча
паветра ў глотках.
                    Да зары
і так не буду спаць.
                    Вагон
тармосіць сэрца, зроку маніць,
і мне ў святле здаецца цьмяным:
у вас — жахліва моцны сон...
Ярчэй паліце ліхтары,
адтуль я, дзе няўцешна плачуць,
мне цяжка нерухомых бачыць...
Не спіце тварам дагары!

* * *

Сані праляцелі!.. Снег, рассыпся,
падхапі ў завею, кінь у крутаверць
след, застылы ў месіве, бы ў гіпсе,
каб рыпець не здолеў, конямі хрыпець.

Замяці рубцы палоззяў; з ямін
выдзьмі пах і пот падкутых капытоў,
каб не ўлёг пагоняй за вазамі
дом, парваўшы пас прысадаў і платоў.

Скарб гадоў маіх схавай віхурна,
іх даўно ў два-тры бярэмі на абоз
пагрузіў імклівы, дужы фурман —
жартам для сябе, а для мяне ўсур'ёз.

Снег, мяцелься! Хай не ўбачыць возьнік,
што з-пад яблыневай стомленай рукі
пазірае дом на ўскрайку вёскі,
а ў яго акне — журлівыя бацькі.

Снег, я там, цябе змахнуўшы з вейкі,
пра абоз ды скарб нудзьгі не завяду.
А па следзе, што застыў навекі,
я прайду пасля... Ці назусім пайду.

* * *

Цішыня. Нікога ў свеце.
Толькі неба... Нас няма...
Толькі месяц сонны свеціць,
спяць аблокі на дамах.

Нехаця кладуцца росы
на пясок ды на бетон.
Ноч з'явілася з хаосу
сумятлівых, шумных дзён.

Вокнаў цёмныя вачніцы,
вуліцы пустыннай пас
вымагаюць усумніцца,
што ствараўся свет для нас.

Цішыня, спакой, лагода.
Ані постаці нідзе.
Быццам існая прырода
адцуралася людзей.

* * *

Збочу і пайду паволі,
і аддаліцца шаша,
і ніхто не будзе ў полі
ні чакаць, ні суцяшаць.

І ніхто не будзе ведаць,
нават сам,
куды павёў
шлях начны, дзе нудна вецер
не пакіне выць, як воўк.

Ён, пакутнік мой убогі,
непрытульны адзінец,
нагадае, што ў дарогі
ёсць пачатак і канец.

Што з яе зарана збочыў,
свой аўтобус адпусціў,
што бязмежжа гэтай ночы
аднаму мне не прайсці.

Азірнуся: светлавыя
знікнуць кропкі...
Рушу ў змрок...
А пасля і сам завыю,
бы занудны вецер-воўк.

* * *

Верасень і чы́рваны, і зе́лены,
з нехалоднай просінню ўгары.
Год, як век, няўпэўнена падзелены
датамі ў зямным календары.

Густа фарбы восені замешаны,
зменлівы штодня іх каларыт.
І яшчэ не раз мастак усмешлівы
намалюе светлы краявід.

Мо адно тады, калі над гонямі
снег закружыць з выцвілым лісцём, —
выб'ецца з няпэўнае гармоніі
незвычайна чорны чарназём.

## Самота

*1*

Гасцініца.
Новаму году
спраўляю радзіны.
Адзін я.
Ды чорная скруха.
Ды чорная-чорная муха,
пачуўшы пагоду,
па шкле прапаўзае,
бзычыць неймавернаю нотай.
Яе не чапаю: адзін я —
ды стане яшчэ адзінотней.

*2*

Нехалодная зіма.
Дрэвы адтаюць у парку.
Хлапчукі ўчынілі сварку —
вераб'іная гурма.

Мокры мяч да ног прыліп.
«Яська,
барані вароты!»
Б'ю з узмаху, з павароту
паміж дзвюх танклявых ліп.

Зніклі, шумныя. Гульня.
Захапіліся футболам.
Пуста-пуста ў парку голым.
Глуха ка́пае з галля.

Пуста мне... Не да гульні.
Хлапчукі мяне не прымуць,
а сябры мае не прыйдуць...
Хоць павісні на галлі.

*3*

Спярша зачыняю дзверы
і ключ у замку пакідаю,
сцягваю паліто сырое
з набухлай газетай і хлебам.
Пасля апускаю фрамугу,
адкінуўшы снег зашэрхлы,
і фіранку здвойваю, быццам
заслону каляднай батлейкі.
Нарэшце сядаю на ложак
і згадваю дзень свой няісны:
усе мае неадкрыцці,
усе мае несустрэчы.
І гэтак мне моцна трэба
запэўніцца яваю свету —
экран запаліць на словах:
«Не забудзьцеся
выключыць тэлевізар...»

* * *

Шпаркая мая дарога,
абмінай ты хоць калі
знакі дробнага, дурнога
ўсцяж няглыбкіх каляін.

Паспрабуй, бы рэчка, віцца
па адмецінах красы,
каб не мог я заблудзіцца,
пераблытаць адрасы.

Ад спадманлівых парогаў
адвядзі,
ад здрады збоч:
колькі й даваў зарокаў,
а памылак больш і больш.

Прыпыніся на загібе,
не спяшайся напраcткі
ў змрок,
дзе спеліць мне пагібель
хцівасць слова ці рукі.

Адхлісні з сябе хоць сцежку
перад блізкім схілам дня,
дзе была б не ўперамешку
з ліпкім брудам чысціня!

* * *

Аднойчы сум садраць, як лыка,
і ўжо гарод не гарадзіць,
а так, нібы аб нечым звыклым,
сказаць: «Ідзі».

Адчуць спакою лёд і дужасць
ды звысака тваю хаду
прыспешыць: «Спачуваць не тужся
і не шкадуй».

Ад мукі збаўлены, без мэты
ступаць па выцвілым лісці
і, запляваўшы цыгарэту,
у дом зайсці.

А ў доме легчы на падушку,
падмяўшы пад сябе далонь,
намацаць зброю — раўнадушна
ўбіць кулю ў скронь...

## Павадыр сабакі

Калі ў асеннім горадзе сшарэе,
выходзяць двое пад іглісты дождж:
стары, які ніколі не хварэе,
і хворы на тугу цыбаты дог.

Сустрэчныя — набок, даюць дарогу,
каб незнарок на лапу не ступіць
і не ўгнявіць тужліўца; дзеці догу
бягуць халвы і пернікаў купіць.

Не хоча ён, адно глядзіць на рукі,
відно, што навячэраўся за трох.
І ўцямваюць дарослыя: без сукі,
няйнакш, нудзьгуе небарака-дог.

Стары змаўчыць, паслухае спакойна
ды месіць зноў асеннюю куццю,
пакуль не крыкнуць ву-у-нь з таго балкона
яму... ці догу... звыклае: «Цю-цю!..»

## Здымак

Край вёскі. Дзве таполі. Пазалота.
Хаціна. Скасабочаны хлявец.
Бабуля — вочы поўныя пяшчоты.
Дзядок глядзіць задумліва з-за плота —
абдзьмухнуты вятрамі дзьмухавец.

* * *

Там, дзе двор быў, — пустка,
а дзе сад — пустэльня.
Год, не меней, хутка,
як памерла Тэкля.

Ды сядзіць ля весніц
Рэкс, дварняк калматы, —
ён вартуе месца,
дзе стаяла хата.

## Далакоп

З вёскі ён, дык звыклая работа:
глыбкі дол і ўзгорачак пяску.
Хоць і не ўзрасці тут каласку —
з вёскі ён, дык звыклая работа.
І спаўзае на яго шчаку,
бы сляза, густая кропля поту...
З вёскі ён, дык звыклая работа:
глыбкі дол і ўзгорачак пяску.

## Парушэнне абраду

Згасаў. Не з самых неўміручых,
праводзін гучных не прасіў.
Як змоўк зусім — уласнаручна
яго паклаў на лаву сын.

«Няможна — роднымі рукамі», —
сказаў святар. Перахрысціў.
Чужыя рукі ўсклалі камень...
Даўно. На сэрца. Пры жыцці.

# Развітанне

*З Віктара Лазарука*

Куток, дзе я шчаслівы быў, сіроча
на прыстані выглядвае зіму
з сарокаю вяртлявай, што рагоча...
Чаму рагоча? Ты спытай чаму.

У выраі і дачнікі, і чайкі.
Скуголіць дождж у зрэджаным галлі,
і цяжка дзень канае, дзень звычайны...
Калі сканае? Ты спытай калі.

Не будзе дня! Тут будуць толькі ночы,
як Турыі бясконцая бруя...
Хтось пасміхнецца
                    ў падабенстве воўчым...
Чыя душа?.. Ты не пытай чыя.

* * *

Як ні шкадуй,
нічога не вяртаецца.
Усё далей,
усё шпарчэйшая хада.
Быў і прайду...
А як жа завіхаецца
вясна!
Як ззяе луг!
Як свеціцца вада!
І не ўтрымаюся —
з дарогі заімглёнае
міжволі кіну позірк
скупа, з-пад брыва...
Не адвяду вачэй!
І — зяляным-зялёная —
спагадай апячэ
да дна душы
трава.

* * *

Гэта пэўна, гэта існа:
свет не згіне, век міне;
гэтым далям, гэтым высям
існаваць пасля мяне.

Гэта дробязь, гэта проста —
гэта выпадзе адна
кропля з мора, кропля з росаў,
кропля з горкага віна.

Гэта дзіўна, гэта сумна:
ноч за днём, за ноччу дзень
паплывуць далей бясшумна
без мяне — ні ў чым, нідзе.

Гэта час мой, гэта рата
і ніякай навіны;
што прыйшоў — не вінаваты,
што пайду — няма віны.

Гэта трэба, гэта сніцца:
вы адчулі — не стае
хоць часцінкі, хоць драбніцы,
хоць крывіначкі мае.

Гэта досыць, гэта выйсце:
скрозь смугу ці скрозь імжу
ў гэтых далях, гэтых высях
ляжа ўцеха на душу.

* * *

...I прачынаюся ў здранцвенні:
як небыццё, мінуўся сон.
А ў гэтым ранішнім збавенні —
працяг ранейшых звыклых дзён.

Мне й новы дзень даўно знаёмы:
зноў будзе тлум і кругаверць.
Але чаму так вабіць з дому,
не патрапляю зразумець.

Так выбіраюся старанна,
што схільны верыць пакрысе,
нібыта нат струмень з-пад крана
мне сёння змены прынясе.

Сляды сціраю сну-адчаю,
выходжу ў свет... Як на бяду,
ён той жа — будні і звычайны.
Ды я — жывы. І жыць іду.

# Апазнанне

*Паэма*

*1*

Танула ў возеры зара.
Збіраўся дождж: стаяла парнасць.
Буслы кружыліся папарна.
Іржышча трактар заараў.

Прапахлі борам грыбнікі,
рыпелі кошыкі з натугай.
Пастух запозненаю пугай
паляскваў з добрае рукі.

І дождж устойліва трываў,
адно гукаў далёкім рэхам,
пакуль, як ластаўкі, пад стрэхі
паразляталася дзятва.

Пасля нібы з вядра лінуў.
Сшарэла. Зыбаліся хаты.
І ў гэтым часе страшнаватым
хіліла вёсачку да сну.

Дождж электрычнасць адключыў.
Абвіслы провад зрэдку бліскаў.
Іскрыўся. Зорка абеліска
над ім свяцілася ўначы.

Ніхто не бачыў. Сніўся дзень.
Сваволіў верасень у голлі.
Сабака стоена скуголіў.
Скакалі кроплі на вадзе.

Ля сельсавета «газік» стаў...
Прачнуцца вёска не хацела,
але зямлі, траве балела
там, дзе чужы па іх ступаў.

*2*

Ліў лівень.
«Свет не відзён.
Шчаслівы,
каму выпала спаць!»
Ён.

«Гаманлівы,
м-маць...»
Прастуджаныя словы.
Участковы.
«Каму — вартаваць?»

«Якая варта!
Будзем разам да дня».
Голас упарты.
Старшыня.

І цішыня
на ганку,
змрок
з дажджом ліпучым.
І тройчы — крок:
няпэўны крок,
нервовы крок
і крок рашучы.


10. Зак. 768.

3

Прасілася ў зацішак вецце,
у шкло пастуквала з двара.
Скразняк хістаў агеньчык свечкі,
ён плыў і вочы адбіраў.

Ды памяць не губляла зроку,
і сярод сполахаў начы
барвовеў колішні, далёкі
агонь...

...Гарэлі Макрачы.

Хлапчына бег, і падаў ніцма,
і зашываўся ў твань і жвір
старой закінутай крыніцы
з пякучай думкаю: жывы.

З пякучай яснасцю: на хутар,
на цэлы свет — душа адна,
і тая ад сваіх пакутаў
не большая: каму відна?

Увесь, ад дна душы да скуры,
сцінаўся, каб зірнуць з-пад рук
на хату — ад яе прыкурваў
худы, ссутулены дзяцюк.

Асмалак ззяў,
і з шызай цемры
прыўзнік акрайчык барады,
сухі пагляд і лоб спацелы...
На паўхвіліны. Назаўжды.

Чужы пайшоў; на кучку жару
шпурнуў асмалак, бы змяю,

а хлопчык зноў утнуўся тварам
і кулакамі біў зямлю...

...Уздрыгнуў стол.
Балелі пальцы.
Макрач вярнуўся з забыцця.
«Не дай жа, Бог, мне абазнацца.
Дай заўтра высветліць. Хаця...

Ці гэты? Кім ён жыў на свеце —
быў чалавек ці ваўкалак?»
Не тухла свечка ў сельсавеце,
не спалі трое ўкруг стала.

Адзін ківаўся пад карнізам,
трымаў далонь на кабуры.
Другі пакутаваў і трызніў,
ды сам з сабою гаварыў.

«Ну, хто ж ён?
Хто — табой забраны,
каго пад арышт пасадзіў?»
Ды трэці быў неапазнаны,
не апазнаў — не асудзі.

*4*

Світала скрозь туман.
Густы — хоць рэж на лусты.
Нікога ў вулцы, пуста,
і ранку ўсё няма.

І вёскі не пазнаць
ад самай крайняй хаты,
Ігнатавай... З Ігната
мо варта й пачынаць.

Мог нешта ведаць ён,
нядаўні хутаранін,
хоць, ведама ж, параніў
яго былы закон.

Тады з НКУСа «госць»
прыняў крутыя меры.
Ніхто тады не верыў
нікому... Рана ёсць.

Ды час быў загаіць,
змяніліся ж парадкі.
Паркан. Дрывотнік. Градкі.
Во, сам Ігнат стаіць.

Халодная рука.
«Даруйце,
я вам — рубам:
мне зноў у лесарубы
ці... гэта... у ЗК?»

Свідруе кабуру.
Клінок на пераноссі.
«Ды што ты. Дроў жа просіш».
«Не змерзну. Не памру».

Да двух не гавары.
«Вось, кажуць, твой знаёмы...»
«Ішоў бы ты! Прыёмы
яшчэ ўсё з той пары».

На трэцяга зірнуў
пагардліва і груба,
і задрыжалі губы,
і позірк саслізнуў.

Пайшоў. Сачылі ўтрох,
як ён схаваўся ў сені
і як па вокнах ценем
мільгнуў і знік спалох.

Хітнуўся за паркан,
дзе вёска пад туманам
ляжала неспазнана...
Світала скрозь туман.

*5*

Сведка адзін не сведка,
сведка, калі іх два.
«Гэй, добры дзень, суседка!»
Ціхая, што трава.

Цётка недачувае.
Тупае сярод сліў,
моўчкі раўчук капае:
дождж ёй садок заліў.

Цётцы не да гаворкі:
плыткі зусім раўчук.
Ступлены штых рыдлёўкі
дужасць рукі адчуў.

Вёсцы мужчын бракуе,
вось і дапамагай
той, што адна вякуе...
Хай жа цікуе, хай.

Горкае штосьці тоіць
з часу, як свет аглух.

Доляй не выйшла. Поіць
мужа-салдата Буг.

Год усяго любошчаў
мела перад вайной,
дык і цяпер нябожчык
сніцца нібыта ёй.

Чуецца вінаватай,
хоць не было віны:
мала хіба хто сватаў
жонак у дні вайны?

Кажуць, дастала здзекаў
верніца цераз край,
дык і сніць чалавека...
Хай жа цікуе, хай.

Мне матузок на шыі
і — скрозь старэчы ўздых:
«Годзе табе, старшынька!»
Змяк і сагнуўся штых.

«Хлопцы, хадземце ў хату,
вымаклі тут вы, до!»
Сумна, ніякавата
свеціць вачыма ўдоў.

Ажно свае прыплюшчыў:
цётка была глухой
меней, чым невідушчай.
Зблізку, з прыціскам: «Той?»

Чула. Чаму ж марудзіць?
З крыўдай за іх, людзей,

тройчы сабе на грудзі
хрэст, нібы грэх, кладзе.

Цьмяна, ды ўсталявана
доўга абводзіў зрок
знакі ўсёдаравання:
цётку, раўчук, садок.

*6*

Галаснікамі чарапіца
пад рэштаю вады звініць.
Сабраць, падправіць, замяніць —
дала воз працы навальніца.

Але каму — адным рупліўцам,
а гэты й сам сябе не чуў.
Затое весела ўваччу:
дабег, паспеў ужо як быццам.

Каўнер наўскос. Рука на сыне.
Пайшоў віхляцца па двары.
«Здароў, Міхал, а дзе стары?»
«Стары? Ды там, дзе быць павінен».

«Няўжо, крый бог?.. Давай закурым».
«Мо вып'ем лепш? Як хоч, дарма».
Няма старога — і няма
надзеі, хоць вылазь са скуры.

Як хутка! Тыдзень у ад'ездзе —
і на́ табе. А ён бы мог
пасобіць — шмат гадоў бярог
архіў свой партызанскі недзе.

Няйначай, карткі. Майстар знаны:
здымаў на нейкі там трафей.
На тыдзень-два вазьмі паспей
ты з гэтым, ну... неапазнаным!

«Чуй, старшыня, мо ўсё-ткі лябнем?
Ці, можа, во, твае сябры?»
«Паслухай, а табе стары
нічога не паказваў?»
«Д'ябла!»

І пасміхнуўся крываротa:
«А ведаеш, ён раз уліп.
Здымаў палонных, потым — лып,
а ўжо адзін за паваротам...»

Ці так было, але таіўся,
бадай што недарэмна дзед
і з тайнаю пакінуў свет,
анігадкі, што ты спазніўся.

Цяпер кусай сябе за локці
ці, як сабака той, за хвост...
Хапіўся і пайшоў наўпрост
ні з чым, у роспачы, улёгцы.

І ў весніцах не запыніўся,
узяў іх з маху, на плячук.
Міхал маўчаў. Падбег хлапчук
і вінавата зачыніўся.

7

Зноў вулка. «Газік». Школа.
Прысады. Сельсавет.
Замкнула вёска кола
і твой згубіла след.

Шукаць мінуласць позна.
Каб не абставін збег,
няўтоленая помста
не змучыла б цябе.

Ты жыў бы між вяскоўцаў,
як жыў — ты праўдалюб:
кідаў спагады слоўца,
даваў сасну на зруб.

Забылі б — ёсць жа мера —
другога Макрача,
што сваяку не верыў,
суседзяў вывучаў...

Хіба табе сягоння
не б'ецца думка ў скронь:
а што ў душы ягонай,
як раптам ён — не ён?

Ды ён жа, ён. І кропка.
Не кінуў з той пары
і вымаўляць таропка,
і похапкам курыць.

А сведкі. Хто гатовы
твой досвед падтрымаць?
«Што скажаш, участковы?»
«А вось што — дапытаць».

І праўда. Не спакуса,
а выйсце з тупіка.
У лес — і пад прымусам,
пад страхам... Пачакай.

Скуль гэты зірк Ігнатаў,
бы скрозь крывое шкло?
Ігнат не вінаваты,
віну знайшлі... Было.

У вёсцы ўдосталь плётак
пра тое. Зноў — туды ж?
Найперш суседка-цётка
паставіць ганьбы крыж.

Яна ж не так змаўчала.
Міхал не дапамог.
Ніхто... Не сын Міхалаў
грудзьмі на ровар лёг?

Стаіць між хлапчукамі,
пазногцем руль скрабе.
Ат, гэты хоць цікаўны —
што іншым да цябе!

*8*

Сваё маленства пакалечыў
вайною. Як і не было.
Мо стуль і роспач, і сумнеча:
хто помніць кут твой і жытло?

Хто помніць шрамы і апёкі,
што ранай леглі на душы?
Няўжо з нас кожны адзінокі,
капні адно, паварушы?

Няўжо ва ўсіх — адно люстэрка,
дзе толькі горыч, боль і страх?
І мераем адною меркай
і кожны лёс, і кожны шлях.

А ў выніку? Рахуба смерці
ды крыж ці помнік на капцы.
Чаму прысутнасць нашу ў свеце
мы заўважаем у канцы?

Калі, зямля, тваё прызванне —
нас нарадзіць і пахаваць,
дык жыць — людзей наканаванне...
Не навучыліся, відаць.

Саміх сябе ці распазнаем,
каб меней помсціць і судзіць.
«Дык што ж мы, хлопча, пазіраем?
Хадзі бліжэй. Сюды ідзі».

*9*

Ног босых
след-ланцужок.
Здалося:
сцебануў
ток.
«Ты не бойся.
Ну!»
Нахмураны бровы.
Участковы.
«Гуляў жа ў вайну?»

«Чакай з вайною,
зусім хлапчаня».

З сумам-віною.
Старшыня.

І цішыня...
Спалох.
«Дзедавых картак
я не збярог...»

«Смаркаты!»
Рука на кабуры.

«Прыбяры!
Сам ты...»

«Бачыць Бог!» —
Неспадзявана
неапазнаны
да хлапчуковых
прыпаў ног.

І выбухова,
як праклён:
«Ён!»

*10*

Свяжэла. Душны дзень сплываў,
лістоту варушыў ціхутка.
У двор з двара хадзіла чутка,
што юда ногі цалаваў.

Усе дапытваліся: хто?
Акрэслілі партрэт дакладны:
прывезлі — самавіты, ладны,
цяпер яму на выгляд сто.

Складалі вёскай жыццяпіс.
Не з іхніх быў.
Прыблуда. Злыдзень.
Камусьці помсціў...
Жонак брыдзіў...
Яго душы чарвяк не згрыз.

«Сябе ён выдаў сам». Усім
Ігнатавы запалі словы.
(Ігнат у «газік» старшынёвы
не сеў, а позву папрасіў.)

Глядзелі Макрачу ўздагон
і шкадавалі. Неўпрыкметку
жанкі праведалі суседку:
маліла неба за яго.

Нагаманіліся, пакуль
з вадой ішлі, кароў чакалі.
Бурачнік, шчаўе вышчыкалі.
Варылі бульбу ў чыгунку.

А паданкі, што вымыў дождж,
сабралі дзеці. Іх сварліва
дамоў гукалі. Хапатліва
апошнія паклалі ў кош.

Наладзіў правады манцёр
ды з абеліска галубіны
сцёр след. Звычайнае рабілі.
Было ў звычайнасці жыццё.

І дзень сплываў. У двор з двара
завітваў вецер-гаспадарнік,
пакуль змарыўся... Як ахвярнік,
блішчала ў возеры зара.

ЗМЕСТ

## *I. З кайстраю і лірай*



## *II. Свет белы, чырвоны след*

## *III. Цябе я клікаў*



## *IV. Быў і прайду*

**Каско А.**

**К 28** Час прысутнасці: Вершы, паэма. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 159 с.

ISBN 5-340-01405-3.

**Жыццё, сваю прысутнасць на зямлі лірычны герой паэзіі Алеся Каско вымярае духоўнай актыўнасцю, неспакоем. «...калі, зямля, тваё прызванне — нас нараджаць і пахаваць, дык жыць — людзей наканаванне...»**

**Псіхалагізмам і гуманістычным пафасам напоўнена паэма «Апазнанне», першая спроба аўтара ў ліра-эпічным жанры.**

**К $\frac{8820600000 - 048}{М\ 302(03)-94}$ 42—94** **ББК 84(4Беи)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Каско Алесь Канстанцінавіч

*Час прысутнасці*

Вершы, паэма

Рэдактар *К. Я. Жук*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Л. М. Маслоўская*

Здадзена ў набор 22.07.93. Падп. да друку 10.01.94. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера афс. № 2. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 6,00. Ул.-выд. арк. 4,42. Тыраж 2200 экз. Зак. 768.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.